● Мікола ГІЛЬ

# ...І ЭНЕРГІЯЙ СЭРЦАЎ!

## ГОРАД І БУДОЎЛЯ

Яго называюць «сталіцай беларускага поўдня». А яшчэ часцей — «беларускай Швейцарыяй». Абодва гэтыя азначэнні шмат у чым правамерныя. Горад ляжыць на поўдні рэспублікі, і любы мінчанін, напрыклад, трапіўшы сюды, асабліва ўзімку, скажа, што тут значна цяплей, чым на берагах Свіслачы, у цэнтры Беларусі. Што ж датычыць «беларускай Швейцарыі», то скажу: Швейцарыя ў нашым уяўленні — дзівоснае і маляўнічае спалучэнне гор, лясоў і вады, і ўсё гэта надта ж стасуецца да вобліку Мазыра.

Горад уражвае яшчэ здалёк, з акна аўтобуса, што імчыць цябе асфальтоўкай з Калінкавіч. Паабапал — звычайная палеская роўнядзь з лясамі і пералескамі і з доўгімі россыпамі і малюсенькімі лапікамі чысцюткa жоўтага, ажно белага, пяску. Мост доўгі, ледзь не на вярсту, пад ім — «спакойная і павольная» Прыпяць, цёмная плынь яе флегматычна пагойдваецца ў акаймаванні пясчана-белых берагоў. А за мостам, на другім баку ракі — высачэзныя, парослыя дрэвамі і кустоўем пагоркі-кручы, па стромых, звілістых схілах іх збягаюць уніз да Прыпяці будынкі.

У самім горадзе пакручастыя, вузкія вуліцы — паўзуць-звіваюцца то ўверх, то ўніз. Некаторыя з іх не назавеш, бадай, вуліцай — няйначай крутая горная дарога, што бяжыць у цясніне, каб дзесьці высока выскачыць на перавал. Падымешся на такі грэбень-перавал, азірнешся назад — унізе цацачныя дахі дамоў, а людзі і машыны між імі малюсенькія, ледзь згледзець вокам.

Маляўнічая панарама горада адкрываецца з самага высокага месца Мазыра — з кургана, на якім узвышаецца суровы белы абеліск з вечным агнём ля падножжа. Глядзіш адсюль на горад — і здаецца, што не сама прырода, а нейкі казачны асілак-волат, змагаючыся з якімсьці ненажэрным страшыдлам, нашпурляў-накарочаў гэтыя велізарныя гурбы пяску... Мінулася шмат часу, пясчаныя кручы параслі травою і лесам, а яшчэ праз гады зацішныя цясніны на беразе ракі аблюбавалі пад жытло людзі. Месца аказалася ўдалым, вясёлым і зручным, на торнай гандлёвай дарозе-рацэ, і неўзабаве вырас на пясчаных пагорках цэлы горад, балазе стромыя кручы сталі для ворагаў непрыступнымі натуральнымі крэпасцямі.

Аднаго толькі не ўлічылі старажытныя мазыране: таго, што з цягам часу на вуліцах горада паявяцца аўтамабілі. Хоць і грэшна, вядома, такое, але мазырскія шафёры памінаюць заснавальнікаў горада часам і не зусім удзячным словамі: каб ездзіць па гарадскіх вуліцах, трэба быць сапраўдным віртуозам. Праўда, гэтыя словы няўдзячнасці хутчэй зрываюцца з вуснаў, пэўна, праезджых ці прыезджых аўтамабілістаў, бо тутэйшыя вельмі любяць свой горад і ездзяць па яго нязручных вуліцах упэўнена і даволі шпарка...

Упершыню трапіў я ў Мазыр гадоў пятнаццаць назад. Ад тае паездкі засталіся ў памяці от гэтая «швейцарская гарыстасць», буйная зеляніна і «райцэнтраўская» цішыня... Тлумна і людна было хіба толькі на старой базарнай плошчы, дзе калісь месціліся і аўтобусны вакзал, і стаянка таксі, і гасцініца, і шматлікія малыя і маленькія крамы і крамкі.

Гады прынеслі гораду нямала змен. Пашырэлі і папрамелі, наколькі гэта было магчыма, некаторыя старыя вузкія вулачкі, паявіліся новыя вуліцы, плошчы, скверы, паўсюль выраслі гмахі-дамы і жылыя мікраёны. Мазыр стаў буйным прамысловым цэнтрам: рэканструяваны кабельны завод, Пхоўскі рачны порт, завод меліярацыйных машын — адзіны ў нашай краіне, — выраслі новыя прадпрыемствы: дрэваапрацоўчы камбінат, завод будаўнічых дэталяў, хлебазавод.

А перспектывы горада яшчэ больш захапляючыя. Будучыню свайго горада мазыране звязваюць перш-наперш з развіццём нафта-хімічнай прамысловасці.

У канцы 1968 года непадалёк ад вёскі Міхалкі пачалося будаўніцтва нафтаперапрацоўчага завода. Было тое, здаецца, зусім нядаўна, а ўжо зараз Мазырскі нафтахімбуд вызначае, калі можна так сказаць, аблічча, характар і жыццядзейны рытм горада і наваколля. Вялікая будоўля напамінае ў Мазыры аб сабе на кожным кроку. З якога боку вы ні ўязджалі б у горад, вы абавязкова напаткаеце слова, якое стала для мазыран зусім звычайным — нафтахімбуд. У добрыя два разы паболела на мазырскіх вуліцах аўтамашын — грузавікоў і аўтобусаў: гэта таксама прыкмета блізкага нафтахімбуда. У новай чатырохпавярховай гасцініцы здабыць месца, бадай, цяжэй, чым у сталіцы — і ў гэтым таксама «вінаваты» нафтахімбуд: будоўля прыцягвае да сябе людзей зблізку і здалёк. Урэшце, новы мікраён у Бабрах і новыя жылыя дамы па вуліцы Інтэрнацыянальнай — таксама нафтахімбуд: яны выраслі зусім нядаўна, рассунуўшы межы горада ўшыркі, далей ад Прыпяці, трымаючыся якой Мазыр выцягнуўся доўгай вузкай паласой ледзь не на пятнаццаць кіламетраў. Усё часцей пачуеш тут і слова «трамвай». Будаўнічая пляцоўка будучага прамысловага комплексу хімічных прадпрыемстваў знаходзіцца далёка ад горада, і мяркуецца, што рабочых на работу і з работы будзе вазіць трамвай.

Старажытны горад над Прыпяццю становіцца не проста «сталіцай беларускага поўдня», а цэнтрам паўднёвага прамысловага раёна рэспублікі.

## НА ПАРОЗЕ РАШАЮЧАГА, 1973-ГА...

На гарызонце з туманна-золкай смугі (на дварэ была сярэдзіна лістапада) выплывае высачэзная шэрая вертыкаль.

— Вось і наш нафтахімбуд, — гаворыць Рыгор Івончык. — Гэта — галоўны комін НПЗ. Дайшлі да адзнакі «сто дваццаць метраў». А падымецца ён увысь на ўсе сто восемдзесят...

Я ківаю галавой, узіраюся ў акно аўтобуса, не адразу здагадваючыся, што азначаюць гэтыя літары — НПЗ.

— Комін нафтаперапрацоўчага завода? — нібыта ўдакладняю ў Рыгора.

— А якога ж яшчэ? — усміхаецца ён і, як ад чагосьці схамянуўшыся, тлумачыць: — Мы тут усе прызвычаіліся да такіх скарачэнняў. Не будзеш жа штораз паўтараць: нафтаперапрацоўчы завод, упраўленне вытворча-тэхнічнай камплектацыі, завод жалезабетонных вырабаў і г. д. НПЗ, УВТК, ЖБВ — коратка і зразумела!

Рыгор Івончык — сакратар камітэта камсамола трэста «Мазырнафтахімбуд». Учора падвечар, сустрэўшыся ў гаркоме камсамола, мы дамовіліся разам паехаць раніцою на будоўлю. І вось зараз, па дарозе ў Міхалкі, ён «уводзіць мяне ў курс»...

— Пачынаў тут Светлагорскі будтрэст: пракладвалі дарогі і пад'язныя шляхі, іншыя камунікацыі, узводзілі першыя жылыя дамы і адміністрацыйна-бытавыя будынкі. Але фронт работ усё пашыраўся, магчымасці ж светлагорцаў былі абмежаваныя, і ў студзені 1971 года на базе будаўнічага ўпраўлення № 152 быў створаны наш «Мазырнафтахімбуд».

Каб будаваць завод, людзям трэба недзе жыць, сталавацца, трэба мець транспарт, розныя машыны і механізмы, будаўнічыя матэрыялы. Вось чаму трэст «Мазырнафтахімбуд» і заняўся ў першую чаргу стварэннем вытворчай базы будоўлі, а таксама ўзвядзеннем жылля...

Мой спадарожнік гаворыць сухавата, слова да слова кладзецца ў яго падчас так, як у газетным радку, што напачатку крыху бянтэжыць: як-ніяк, Рыгор не нейкі там адміністратар, якому многае можна дараваць, а важак моладзі. А мо гэта ад лішняй насцярожанасці, якая, пераканаўся, чамусьці паяўляецца ў людзей пры сустрэчы з нашым братам-газетчыкам? А мо ўжо і звычка такая выпрацавалася ў хлопца? Што ні кажы, а будоўля ёсць будоўля, тут усё строга разлічана, укладзена ў жорсткія тэрміны графікаў і рамкі працоўнага распарадку, і ўсё гэта дысцыплінуе людзей, прывучае да гаворкі дзелавой, без лішняй балбатні і эмоцый. Зрэшты, мо мне тое проста падалося? Больш істотна іншае. Ну, хоць бы вось гэта: сакратар камітэта камсамола паводзіць сябе не як гід, а як гаспадар. Гэта ж ягоныя словы: «наш «Мазырнафтахімбуд», «нашай першачарговай задачай»... Мо на гэта лепей звярнуць увагу?

Думаю так, а Рыгор між тым працягвае:

— Напачатку ў трэсце было нешта каля васьмісот рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Цяпер жа у нас, разам з субпадраднымі арганізацыямі, чатыры з паловай тысячы чалавек. Больш чым у пяць разоў выраслі за няпоўныя два гады! Нялёгка было, канечне. Амаль штомесяц узнікалі новыя будаўнічыя ўпраўленні, участкі і брыгады, і ўсюды патрэбны людзі, і не абы-якія, а спецыялісты... Цяпер, калі калектыў у асноўным склаўся, намнога лягчэй. А раней усяго было: і зрываў, і памылак, і непаразуменняў. Ды, падумаўшы, іначай, відаць, і не магло быць, бо раслі мы і працавалі адначасова. І паспелі зрабіць, здаецца, нямала...

Неўзабаве аўтобус з'ехаў з бетонкі і спыніўся ля круглага шчытка з надпісам: «Прамбаза»...

...Яшчэ ў Мінску я сёе-тое чытаў і чуў пра будаўніцтва Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, ведаў, што гэта адна з важнейшых будоўляў дзевятай пяцігодкі. Здавалася, меў нейкае ўяўленне аб яе памерах і маштабах. Тым не менш, прызнаюся, убачанае перакрэсліла ўсе тыя мае ўяўленні.

Панараму будоўлі нельга ахапіць вокам — яна раскінулася не на адной сотні гектараў. Паўсюль — бетонныя і металічныя каркасы, вежавыя краны, на гарызонце — *бясконцыя паўкруглыя піраміды* рэзервуараў, а ў паветры стаіць глухі, несціхана-аднастайны гул. Спачатку цяжка. немагчыма вылучыць у ім нейкія асобныя, пэўныя гукі, і толькі пасля, прывыкнуўшыся, слых пачынае адрозніваць сіпенне электразваркі і вухканне чыгуннай «бабы», скрыгат бетонамяшалкі і натужнае гудзенне бульдозера, грукат цяжкіх самазвалаў і тарахценне кампрэсара...

— Будзем знаёміцца? — пытаецца Рыгор і дадае: — Пачнём з бетоннага.

Мне, вядома, усё роўна, адкуль ці з чаго пачынаць знаёмства з будоўляй, і вось мы, пераскокваючы цераз шпалы (рэйкі, што ляжаць на іх, слізка-цьмяныя — цеплавозы і вагоны па іх пакуль не бегаюць), ідзём да высозных шэрых паўцыліндраў.

— Гэта цэментасховішча, — тлумачыць мне Івончык. — Адсюль «хлеб будоўлі», як вы любіце пісаць, будзе падавацца ў цэх прыгатавання бетону, вунь у той корпус. А гэта — нацяжны стэнд завода, там — арматурны, там — цэх сушкі...

Ён крочыць шпарка, лёгка пералазячы праз змеявікі труб і трубак, умела абыходзячы немаведама для чаго пастаўленыя тут (мне, прынамсі, так здаецца) нагрувашчванні металу і бетону, — і гаворыць, гаворыць... Я, шчыра кажучы, улоўліваю з ягонае гаворкі далёка не ўсё («Завод — пускавы аб'ект... Тут — бытоўкі, душавыя кабіны, шафкі для кожнага рабочага... Адміністрацыйна-бытавы корпус са сталовай, буфетамі, пакоямі адпачынку...»). Думкі мае бягуць-верцяцца вакол іншага: адзначаю для сябе, што Івончык ходзіць тут, па ўсім відно, часта — усе хады і выхады ведае, што ён, нягледзячы на сваю гуманітарную адукацыю (па прафесіі Рыгор — педагог-гісторык), умее заўважыць брак у рабоце тынкоўшчыкаў ці муляраў, адрозніць якасную зварку ад няякаснай...



— Па гэты бок бетонкі толькі прамбаза завода, — зноў чую Рыгораў голас. — А гэта, па сутнасці, некалькі самастойных і буйных заводаў і прадпрыемстваў. Асобныя з іх уступілі ўжо ў строй, іншыя — пускавыя аб'екты. Вунь, у развілцы дарог, наша новая аўтабаза. На 350 машын. Усяго некалькі дзён, як абжылі яе шафёры і аўтарамонтнікі. Аўтабаза — кароткае слова. А там — цэлы комплекс будынкаў і збудаванняў: і галоўны вытворчы корпус, і адміністрацыйны, і сталовая, і акумулятарная, і кампрэсарная, і аўтазаправачная станцыя...

За два гады на будоўлі выкананы велізарны аб'ём работ. Аб'ём гэты ў грашовым вылічэнні вымяраецца не адным дзесяткам мільёнаў рублёў. Контуры ўдарнай камсамольскай будоўлі набываюць усё больш выразныя абрысы. Завяршаецца стварэнне вытворчай базы: між дзвюма бетонкамі выраслі, апрача аўтабазы, завод жалезабетонных вырабаў, адміністрацыйна-бытавы і вытворчы карпусы базы «Мінмантажспецбуд», трохпавярховы будынак упраўлення трэста, карпусы баз механізацыі і вытворча-тэхнічнай камплектацыі, вядуцца мантажныя работы на Мазырскай ЦЭЦ, на будаўніцтве вадавода і ачышчальных збудаванняў. У Бабрах растуць новыя жылыя дамы. Будуецца і сам НПЗ (калі гаварыць па-тутэйшаму): падняўся ўгору каркас будынка дырэкцыі завода, ідзе мантаж першай тэхналагічнай установкі па перапрацоўцы нафты.

Аднак асноўны аб'ём работ па будаўніцтве завода — яшчэ наперадзе. Менавіта тут, на заводскай пляцоўцы, будзе цэнтр цяжару намаганняў калектыву будаўнікоў у сёлетнім, 1973 годзе...

## ГАЛІНА МАКСІМОВІЧ І ІНШЫЯ...

Якое б моцнае ўражанне ні пакідала сама будоўля (а здзіўляцца тут сапраўды ёсць чаму — напрыклад, маштабнасці, унікальнасці, скіраванасці ў будучыню тэхнічнай і архітэктурна-планіровачнай думкі), усё ж галоўнае — людзі, няхай гэта (могуць заўважыць) банальны журналісцкі прыём — што з таго? Ёсць ісціны, якія ад частага паўтарэння не блякнуць, не губляюць сваёй сутнасці і вагі, не перастаюць быць ісцінамі.

Палавіну шматтысячнага калектыву нафтахімбудаўцаў складае моладзь. Атрад камсамоліі — звыш тысячы юнакоў і дзяўчат. І трэба сказаць, што менавіта моладзь трымае першыя рубяжы ў сацыялістычным спаборніцтве ўчасткаў і брыгад, выступае ініцыятарам усіх добрых спраў. Зрэшты, так і павінна быць на ўдарнай камсамольскай.

У тыя лістападаўскія дні 1972 года ўдарную вахту ў гонар 50-годдзя з дня ўтварэння СССР неслі 22 камсамольска-маладзёжныя брыгады. Асаблівы сэнс набываў у перадсвяточны час той факт, што на ўзвядзенні другога ў рэспубліцы нафтаперапрацоўчага завода ў цеснай садружнасці, плячо да пляча працавалі прадстаўнікі больш чым дваццаці нацыянальнасцяў савецкай краіны.

Маладзёжны калектыў нафтахімбуда неаднойчы выходзіў пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва сярод калектываў іншых камсамольскіх будоўляў рэспублікі.

Брыгада слесараў-мантажнікаў Тома Дзергачова з упраўлення трэста «Нафтазаводмантаж» двойчы запар заваёўвала прыз абласной газеты «Гомельская праўда» (ёсць на нафтахімбудзе і гэтакая ганаровая ўзнагарода), была ініцыятарам спаборніцтва за права калектыву насіць імя 50-годдзя СССР.

Сярод лепшых маладзёжных брыгад упраўлення — брыгада Уладзіміра Дзярабіна і Кіма Чыгінёва. Калісь у брыгадзе Чыгінёва працаваў Толя Дзмітрыенка. Хлопец выдатна засвоіў урокі свайго сябра і настаўніка, і калі Чыгінёў пакідаў брыгаду, ён смела перадаў яе Дзмітрыенку. А яшчэ праз некаторы час Анатоль перадаў брыгаду ўжо свайму вучню, а сам узначаліў новы маладзёжны калектыў, справы ў якім не ладзіліся. Зараз брыгада Анатоля Дзмітрыенкі — гонар упраўлення.

І ў тым, што калектыў «Нафтазаводамантажа» заваяваў першынство ў перадкастрычніцкім спаборніцтве сярод будаўнічых арганізацый Мазыра, ёсць несумненная і немалая заслуга маладых мантажнікаў. Гэта і іх рукамі зманціравана больш чым тры тысячы тон металаканструкцый, пракладзена амаль сем кіламетраў трубапровадаў, узведзена 22 рэзервуары розных ёмістасцяў, пастамент і абслугоўваючыя пляцоўкі першай нафтаперапрацоўчай установкі, каркасы трубчастых печаў і многае іншае.

З сапраўдным камсамольскім запалам працуюць брыгада Уладзіміра Малюкова з 167-га будаўнічага ўпраўлення, дэвіз якой — «Пяцігодку — за чатыры з паловай гады!», брыгады бетоншчыкаў Васіля Казакова, Васіля Зайца і Яўгена Шэцкі. Хлопцы з брыгады Шэцкі былі пераможцамі ў спаборніцтве за права пакласці першыя кубаметры бетону ў падмурак першай нафтаперапрацоўчай установкі.

Нямала грамат, прызоў і іншых узнагарод заваявала комплексная брыгада Васіля Рэпніка. Малады камуніст (Рэпнік быў прыняты ў члены КПСС тут, на будоўлі) выступіў на старонках «Гомельскай праўды» з заклікам да ўсіх камсамольцаў, да ўсіх рабочых нафтахімбуда быць беражлівымі, ашчаднымі ў выкарыстанні матэрыялаў, машын і механізмаў.

Не шукаюць спакойнага жыцця, не баяцца цяжкасцяў, паказваюць прыклад у працы дзяўчаты і хлопцы з брыгад Аляксандра Фралова, Любы Лапушка, Кацярыны Чарнобылец, Пятра Чугуя, Соф'і Макарэвіч, Маргарыты Кунгер, Тацяны Трапкінай і многіх іншых камсамольска-маладзёжных калектываў будоўлі.

...У адміністрацыйна-бытавым корпусе «Мінмантажспецбуда» я пазнаёміўся з брыгадай маляроў-тынкоўшчыкаў Галіны Максімовіч з будупраўлення № 183. Брыгаду адзінадушна называлі мне лепшай і ў камітэце камсамола, і ў парткоме, і ва ўпраўленні трэста. Дзяўчаты тынкавалі столь і сцены. Працавалі яны без мітусні, але і не марудліва, і пад іх рукамі шэрыя брудныя перакрыцці і шурпата-шчарбатыя перагародкі набывалі зусім іншы, амаль святочны выгляд.

— Такая ўжо наша прафесія — прыводзіць да ладу тое, што зроблена папярэднікамі, «замазваць» іх грахі, — жартуе брыгадзір. — Бачыце, адразу весялеюць сцены. А яшчэ ж малярка будзе...

Галіна Максімовіч — родам са Старобіншчыны. Скончыўшы дзесяцігодку, у 1959 годзе паехала па камсамольскай пуцёўцы ў Казахстан. Там, у Петрапаўлаўску, набыла прафесію маляра-тынкоўшчыка і амаль дзесяць гадоў працавала на будоўлях. А пасля пацягнула на радзіму. Прыехала да цёткі ў Светлагорск, стала працаваць у дваццатым трэсце. Праз колькі часу была камандзіравана ў Мазыр, на нафтахімбуд. Тут узначаліла камсамольска-маладзёжную брыгаду аддзелачнікаў.

— З такімі дзяўчаткамі, як у мяне, працаваць і бяды не знаць, — расказвае мне Галіна. — Раніцою дасі заданне і можаш быць спакойнай: зробяць, як след. Навучыліся працаваць. Ну, ды ім і лацвей было — амаль усе з ГПТВ. Адно што практыкі, навыкаў малавата было... Не тое, што мне калісьці было ў Петрапаўлаўску... Вунь, на козлах, Валя Мельнікава — паз вядзе. Прыехала летась з Магілёва маляром чацвёртага разраду і дыплом з адзнакай прывезла. А Зіна Шастакова? Таксама маляром прыехала. А зараз і тынкоўшчыцы — на любую работу здатныя!..

Падбягаюць дзве смяшлівыя, у хустках, завязаных па самыя вочы, дзяўчыны, адцягваюць Галіну ўбок і нешта шэпчуць ёй на вуха. Вяртаючыся назад, Максімовіч кажа:

— От, стракозы! Даўно просяцца ў маю брыгаду. Зараз убачылі ўнізе прараба, дык прыбеглі зноў: пойдзем гаварыць з ім, дык ці не супраць я? Хай гаворыць. Калі дазволіць...

Яна хацела яшчэ штосьці сказаць, але раптам у праёме дзвярэй некага згледзела і закрычала:

— Ідзі сюды, галубок, не ўцякай!

Да нас падышоў хлопец. Галіна ўзяла яго пад руку і павяла ўздоўж акон, штосьці паказваючы. Хлопец у адказ нешта тлумачыў, нібы ў чымсьці апраўдваўся, затым махнуў рукой:

— Зробім! Усё зробім!





Пасля, калі ён пайшоў, Галіна растлумачыла:

— Муляры-цесляры! Цяпер — «Зробім, усё зробім!», а раней дык не бачылі! Такія сляды пакінулі, што ніякая тынкоўка не дапаможа. Напартачылі...

...Назаўтра я зноў сустрэўся з Галінай Максімовіч. Разгаварыліся. Даведаўся, што яе брыгада двойчы займала першае месца ў спаборніцтве калектываў упраўлення. Па выніках першага квартала яе дзяўчатам уручаны пераходны сцяг Гомельскага абкома камсамола і грашовая прэмія. Яшчэ раней брыгада была прэміявана паездкай у Брэсцкую крэпасць-герой. Аднак пра ўсё гэта Галіна гаварыла без асаблівай ахвоты — больш расказвала пра сваіх дзяўчат.

— Дык не забудзьце ж Валю Казлову ўспомніць. Вельмі ж харошая дзяўчына! З Гомельскага ГПТВ. І працуе старанна, і ў вячэрнюю школу ходзіць. А спявае як — каб вы чулі! І пра Зойку Зязюлю варта добрае слова сказаць, і пра Машу Варанцову. Во — Маша таксама вучыцца, у палітэхнікуме. І пра Ніну Арашкевіч... Ой, але дзе ж вы ўсіх успомніце! Дваццаць жа шэсць усіх у мяне... Ага, ледзь не забылася — у нас жа хлопец адзін ёсць, Валодзя Нежывёнак, матарыст. Бачылі ўчора, раствор падаваў? Мы без яго як без рук. Летась з арміі прыйшоў — і да нас. Ажаніцца пасцел і сына, Сяргея, займець. Мы каляску купілі... Ды ўсяго не раскажаш! От хоць бы Валодзя. Спачатку мы з ім не дужа ладзілі, сварыліся часам. Гэта ж, дайце веры, паспаць любіў, на работу спазняўся. А цяпер наш Валодзя — ні на кога не прамяняем... Быў у нас яшчэ адзін хлопец — Ваня Паўлючэнка.У арміі цяпер. Але нас не забывае, піша. У пісьмах мяне ўсё «мамай» называе, як раней жартаваў... — смяецца Галіна. — Абяцае вярнуцца, як адслужыцца....

— А пра работу, дык што гаварыць? Працуем, стараемся, каб не сорамна перад іншымі было. Калі праўду казаць, дык плакалі мае работніцы спачатку. Ведама, маладзенькія ўсе, мама далёка... Ды і цяжка было без прывычкі. Паспрабуй колькі гадзін пашпурляць раствор на сцяну ці пад столлю пастаяць — ні рук, ні спіны не чуеш... Яны плачуць, і я з імі разам паплачу, пра сябе ім раскажу, пра тое, як у Петрапаўлаўску сама гэтак жа плакала, суцешу... Адна была не вытрывала, уцякаць сабралася. Думала ўжо, не ўтрымаю, ажно — адумалася, вярнулася...

— Як я камандую імі? А што тут камандаваць? Ці ж у іх свайго розуму няма? А калі што якое, дык у нас добры «дубец» ёсць — каэфіцыент працоўнага ўдзелу. У дзень палучкі ён можа дужа крэпка аб сабе напомніць, пакажа, хто не ленаваўся, а хто «перакуры» частыя рабіў. Каэфіцыент — найлепшы памочнік, каб парадак, дысцыпліна ў брыгадзе былі. А на заробкі не крыўдуюць дзяўчаты. Бывае, што і пад дзве сотні заробак той падбіраецца...

— Пытаецеся, як вучымся, адпачываем? З прафесійнай вучобай, канечне, прасцей. У часе работы вучымся, адна ў адной. А вось са школай ці тэхнікумам там — цяжэй. Міхалкі далекавата ад горада. Падняцца а сёмай трэба, а то і раней — а восьмай на работу. Пасля зноў жа — пакуль дадому, пакуль сёе-тое... Дзяўчаткі ж! Прычапурыцца крыху, у кіно збегаць, зрабіць што... З хлопцам сустрэцца — таксама трэба. А і натомяцца за дзень... От і цяжка ўгаварыць, каб, пакуль маладыя, вучыліся. Многія вучацца, я ж казала ўжо, але не ўсе. Пасля, кажуць, як завод пабудуем... Ну, а як свята якое ці ў каго дзень нараджэння, дык, як і на рабоце, заўсёды разам. Учора во ў кіно хадзілі гуртам, «Утаймаванне агню» глядзелі...

Слухаў я гэты шчыры расказ Галіны Максімовіч, і было хораша на душы, радасна за яе самую, за яе брыгаду, за яе працавітых і ва ўсіх адносінах сімпатычных дзяўчат...

## НА ПАРАДКУ ДНЯ

Камітэт камсамола і яго апаратыўна-вытворчы аддзел — штаб будоўлі — зрабілі нямала для таго, каб згуртаваць калектыў будаўнікоў, накі-

раваць энергію моладзі на выкананне вытворчых заданняў і планаў. Менавіта камсамол, як ужо казаў, ініцыятар многіх добрых спраў маладых нафтабудаўцаў.

Па ініцыятыве камсамола на будоўлі арганізаваны вучэбна-вытворчы пункт, дзе за два няпоўныя гады — з часу стварэння трэста — больш чым паўтары тысячы чалавек набылі будаўнічую прафесію альбо павысілі сваю кваліфікацыю. Урачыстае пасвячэнне юнакоў і дзяўчат у рабочыя, што ўжо стала на нафтахімбудзе добрай традыцыяй, — таксама заслуга трэстаўскай камсамоліі.

У калектывах упраўленняў і ўчасткаў рэгулярна праводзяцца конкурсы маладых будаўнікоў на званне лепшага па прафесіі. Імёны пераможцаў гэтых конкурсаў — Надзі Каспяровіч, Галі Сталярук, Надзі Пінчук, Аляксандра Малашанкі, Мікалая Піліповіча, Аляксандра Козела, Рыгора Ярмоленкі і многіх іншых — шырока вядомыя на нафтахімбудзе.

Ударную камсамольскую будоўлю нярэдка падводзяць пастаўшчыкі. Шмат прастояў з-за недахопу будаўнічых матэрыялаў і іншых матэрыяльна-тэхнічных сродкаў было ў другім квартале мінулага года. Камсамольскі штаб не заставаўся ў баку ад гэтых праблем, прымаў неадкладныя захады для ліквідацыі прастояў. Штабісты неаднойчы звязваліся з камітэтам камсамола Крычаўскага цэментавага завода — каб там паскорылі адпраўку ў Мазыр цэменту, з камсамольскай арганізацыяй Міністэрства хімічнай прамысловасці — каб хутчэй была выслана неабходная будаўнікам дакументацыя, з камітэтам камсамола Маладзечанскага завода металаканструкцый і інш. Просьбы камсамольскага штаба не заставаліся без адказу.

Гэта не азначае, аднак, што камсамольцы падмяняюць забеспячэнцаў ці іншых гаспадарнікаў. Камітэт камсамола трэста і штаб будоўлі разумеюць сваю задачу шырэй: арганізоўваць моладзь, падтрымліваць ініцыятыву перадавікоў, рабіць іх вопыт і дасягненні здабыткам калектыву.

Штаб працуе ў цесным кантакце з упраўленнем, парткомам і іншымі службамі і аддзеламі трэста «Мазырнафтахімбуд».

Кіраўніцтва будоўлі ўважліва ставіцца да запатрабаванняў моладзі, праяўляе заўсёдную зацікаўленасць справамі камсамольцаў. Кіраўнік трэста М. Майдановіч, намеснік яго і ён жа намеснік сакратара парткома П. Бакуновіч (абодва былыя нафтабудаўцы-палачане), сакратар парткома Т. Карпаў і іншыя кіраўнікі будоўлі прымаюць удзел у пасяджэннях камітэта камсамола, бываюць на камсамольскіх сходах упраўленняў і ўчасткаў, канкрэтна дапамагаюць камсамольскім работнікам.

Аднак, зноў жа, партком трэста і кіраўніцтва будоўлі не звязваюць ініцыятывы камсамольцаў, не зыходзяць у рабоце з камсамолам да дробязнай штодзённай апекі.

У 1971 годзе, у сувязі са стварэннем трэста, рэзка ўзрос прыток людзей на будоўлю. Паўстала праблема з жыллём. І тады на ўдарную вахту стаў камсамол. Камсамольскі штаб будоўлі перамясціўся, па сутнасці, у вёску Бабры, у новы мікраraён, дзе ўзводзіцца жыллё для нафтахімбудаўцаў, энергетыкаў, будучых хімікаў-нафтавікоў. Маладыя будаўнікі працавалі ў тры змены. І некалькі жылых дамоў і інтэрнатаў датэрмінова прынялі навасёлаў.

Альбо другі прыклад.

Матэрыялы і абсталяванне на будоўлю паступаюць на станцыю Мытва. На станцыі склалася трывожнае становішча: шматлікія будаўнічыя матэрыялы, машыны і абсталяванне згружаліся абы-як. Усё гэта мокла пад дажджом, пакрывалася снегам. Камсамольскі штаб узяў Мытву пад свой кантроль. На станцыю накіравалі ўдарны камсамольска-маладзёжны атрад — 150 юнакоў і дзяўчат. Яны паставілі некалькі часовых паветак (неўзабаве матэрыялы і абсталяванне будуць паступаць непасрэдна на будаўнічую пляцоўку), склалі на паддоны цэглу, упарадкавалі штабелі дошак і г. д.

На жаль, у рабоце камітэта камсамола (яму нададзены правы райкома) і штаба будоўлі ёсць яшчэ і нямала недахопаў. Многія з іх тлумачацца арганізацыйнымі цяжкасцямі — працэс станаўлення камсамольскай арганізацыі трэста «Мазырнафтахімбуд» дужа зацягнуўся. Пярвічныя арганізацыі, праўда, створаны, але працуюць актыўна далёка не ўсе: у многіх яшчэ не наладжаны ўлік камсамольцаў, парушаюцца графікі правядзення сходаў, не ўсюды падабраны старанныя, ініцыятыўныя работнікі.





У рабоце камітэта і штаба надараюцца яшчэ і праявы фармалізму. Спашлюся на такі факт. Адна з камсамольска-маладзёжных брыгад аддзелачнікаў выступіла ў свой час з ініцыятывай здаваць аб'екты з камсамольскім гарантыйным пашпартам. Здавалася б, камітэт камсамола павінен быў ухваліць ініцыятыву, надаць ёй крылы і размах. Здарылася ж, на жаль, інакш: пачын не быў падтрыманы, і добрая справа засохла на кораці, а ў ініцыятараў застаўся на душы горкі асадак.

Сакратар камітэта камсамола трэста Р. Івончык — ініцыятыўны, вопытны камсамольскі работнік. Магчыма, працаваць на поўную сілу яму перашкаджаюць некаторыя рысы яго характару: празмерная рэзкаватасць, катэгарычнасць тону ў гаворцы з людзьмі.

У тым, што ў рабоце камітэта камсамола і штаба будоўлі надараюцца пралікі, ёсць, думаецца, пэўная віна Мазырскага гаркома і Гомельскага абкома ЛКСМБ. Я гутарыў з першым сакратаром Мазырскага ГК ЛКСМБ Анатолем Змушкам. Адчувалася, што ён душой і сэрцам успрымае справы на ўдарнай камсамольскай, імкнецца аказаць дапамогу камітэту камсамола і штабу будоўлі. Анатоль расказаў мне аб суботніках і нядзельніках, праведзеных камсамольцамі горада на нафтахімбудзе, аб тым, што Мазыр паслаў на будоўлю нямала юнакоў і дзяўчат, што самадзейныя калектывы горада часта выступаюць перад нафтабудаўцамі з шэфскімі канцэртамі... Усё гэта, вядома, добра. Тым не менш дапамога гаркома камсамола ўдарнай камсамольскай павінна быць большай, а галоўнае, канкрэтнай, паўсядзённай.

Апошнім часам камсамольскія работнікі радзей сталі бываць на нафтахімбудзе, чым напачатку, калі будоўля была аб'яўлена ўдарнай камсамольскай. Ды і не толькі яны. На нафтабудзе штосьці не прыгадваюць, каб да іх прыязджалі маладыя беларускія мастакі, акцёры, кінематаграфісты, пісьменнікі. А між тым такія паездкі (індывідуальныя ці брыгадныя) былі б узаемна карысныя як для нафтабудаўцаў, так і для творчай моладзі.

Відаць, варта звярнуць увагу і на больш аператыўнае асвятленне спраў на Мазырскім нафтахімбудзе ў друку. У гэтым кірунку нямала робяць рэдакцыі мазырскай аб'яднанай газеты «Камуніст Палесся» і абласной «Гомельскай праўды». «Камуніст Палесся» рэгулярна змяшчае тэматычныя старонкі пад назвай «Зара нафтабуда», абласная газета — шматлікія матэрыялы пад рубрыкай «Гомельская праўда» на нафтабудзе». Працуе на будоўлі і выязная рэдакцыя «Гомельскай праўды». Ну а камсамольскі друк рэспублікі, на жаль, піша пра ўдарную камсамольскую пакуль што вельмі мала, эпізадычна.

На нафтабуд па камсамольскіх пуцёўках прыехала нямала юнакоў і дзяўчат з усіх куткоў Беларусі. Будоўля толькі набірае тэмпы, людзі там будуць патрэбны, і таму пасланцы камсамола будуць, як і раней, прыязджаць у Мазыр.

Зразумела, што да ўсялякай вялікай справы «прымазваюцца» і людзі выпадковыя: аматары доўгага рубля, лёгкага заробку і г. д. Але чаму яны едуць на будоўлю па камсамольскай пуцёўцы? На нафтахімбудзе мне расказвалі пра выпадкі, якія сведчаць аб тым, што асобныя райкомы камсамола адносяцца да падбору людзей на ўдарную камсамольскую проста безадказна. Адзін райком прыслаў на нафтабуд не юнакоў і дзяўчат, а падлеткаў. Пасланцы другога райкома аказаліся яўна фіктыўнымі камсамольцамі: іх «афармілі» ў члены ВЛКСМ перад самым ад'ездам, абы паслаць. Трэці райком прыслаў — па камсамольскай пуцёўцы — аматара выпіць...

Часта камітэты камсамола арыентуюць сваіх пасланцоў зусім не на тое, што іх чакае на будоўлі, спакушаюць высокімі заробкамі, гарадской прапіскай і г. д., забываючыся сказаць, што камсамольская пуцёўка да многага абавязвае, што юнак ці дзяўчына едзе не на прагулку, а на будоўлю, дзе будуць і цяжкасці.

Хто павінен прыязджаць на ўдарную камсамольскую? Як павінны ставіцца да адбору людзей райкомы і абкомы камсамола?

— Было б вельмі добра, — гаворыць сакратар камітэта камсамола «Мазырнафтахімбуда» Рыгор Івончык, — калі б, напрыклад, Гродна, Брэст, Івацэвічы, Кобрын і г. д. прысылалі да нас не асобных дзяўчат і юнакоў, а на месцы камплектавалі з добраахвотнікаў, скажам, брыгады. Ёсць абучаныя людзі — добра, не — падвучацца тут, у нас. Галоўнае, каб на будоўлю прыязджаў калектыў, з зямляцкай дружбай і сувязямі, урэшце — з зямляцкім гонарам: мы — гродзенцы, мы — брэстаўчане...

Думаецца, што тут ёсць, як кажуць, пэўнае рацыянальнае зерне.

І апошняе, пра што ўзнікала гаворка на нафтабудзе. Маладзёжны калектыў будоўлі гартуецца, цэментуецца не толькі ў працы. На будоўлі нараджаюцца калектывы мастацкай самадзейнасці (нафтабудаўнікі ўжо ўдзельнічалі ў гарадскім аглядзе), ёсць нямала здольных спартсменаў, а клуба ці палаца культуры пакуль няма. У Мазыры ж таксама не густа культурна-асветных устаноў...

...Усцяж дарогі на Міхалкі крочаць ажурныя вышкі высакавольтавай лініі электраперадач. Па яе правадах бяжыць на будоўлю электраэнергія. Але не толькі ёю сілкуецца ўдарная камсамольская. Другі беларускі нафтагігант паўстае на Палессі і сілай энергіі чалавечых сэрцаў, і, пэўна, у першую чаргу — сілай энергіі маладых, няўрымслівых і гарачых камсамольскіх сэрцаў.

**г. Мазыр.**

■ ■ ■





# ЗАЎТРАШНІЯ ІНЖЫНЕРЫ

Вы не спрабавалі зірнуць адразу ў тысячу дзявочых вачэй? Менавіта так адчувае сябе кожны, хто пераступіў парог Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці. Гэта амаль «дзявочая ўстанова», бо рыхтуюць тут спецыялістаў для швейных, абутковых, трыкатажных прадпрыемстваў.

Інстытут зусім яшчэ малады. Яму ўсяго сем гадоў. Даў тры выпускі. Выпускнікі працуюць па ўсёй краіне. Выкладчыцкі калектыў таксама малады: дэкану механіка-тэхналагічнага факультэта Барысу Раманавічу Фомчанку, напрыклад, ледзь пераваліла за трыццаць, многія выкладчыкі атрымалі адукацыю ў сваім жа інстытуце.

У Віцебскім тэхналагічным пануе творчая атмасфера. Кожны трэці студэнт — член навуковага таварыства. Толькі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна мае больш лаўрэатаў усесаюзнага конкурсу студэнцкіх навуковых работ. Дыплом лаўрэата ўсесаюзнага конкурсу на навуковую работу «Знікненне істотнай розніцы паміж разумовай і фізічнай працай на заводзе радыёдэталяў» атрымаў Барыс Мацвееў — рабочы, студэнт вячэрняга факультэта.

Добрымі словамі ўспамінаюць Віцебскі тэхналагічны інстытут беларускія меліяратары, калгаснікі, будаўнікі Лукомльскай ДРЭС. У працоўным семестры 1972 года ўдзельнічала трынаццаць студэнцкіх атрадаў з тэхналагічнага інстытута. А пераможцам абласнога агляду стаў атрад «Арганаўт», якім камандаваў студэнт трэцяга курса Мікола Чылек.

Любяць на Віцебшчыне і студэнцкі тэатр мініяцюр, і вакальна-інструментальны ансамбль «Інтэграл». Ведаюць дзявочую валейбольную каманду, тэхналагічнага — з «буравесніцкіх» каманд яна лепшая ў вобласці. Захапляюцца віцябляне і грацыяй майстра спорту Людмілы Аргучынскай — яна вучыцца ў тэхналагічным і трэніруецца ў славутага Вікенція Дзмітрыева.

З усіх гэтых поспехаў складаецца слава маладога інстытута, які сярод вышэйшых навучальных устаноў краіны, што рыхтуюць кадры для лёгкай прамысловасці, выйшаў на першае месца.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**





Маладая выкладчыца інстытута, кандыдат фізіка-матэматычных навук Міраслава Міхайлаўна Зубарава.



Бацька і сын... Леанід Кукушкін скончыў Віцебскі тэхналагічны інстытут. Цяпер ён аспірант Маскоўскага тэкстыльнага інстытута. А Максім Ермалаевіч Кукушкін — заслужаны рацыяналізатар БССР, ветэран трыкатажнай вытворчасці. Нягледзячы на пенсійны ўзрост, працуе слесарам у тэхналагічным інстытуце.

← Перад лекцыяй.



Сёлета яны атрымаюць дыпломы мадэльераў-канструктараў.

●



Студэнцкі будаўнічы атрад «Арганаўт».



Салістка вакальна-інструментальнага ансамбля «Інтэграл» Таццяна Пагарэльская.

Фота **В. Ждановіча.**



# ЯК НАРАДЖАЕЦЦА ПЕСНЯ

Знаёмы студэнт, камісар будаўнічага атрада, які працаваў сёлета ў тых самых мясцінах, куды, у поўнай адпаведнасці са словамі вядомай песні, «толькі самалётам можна даляцець», расказваў мне пра таёжнае жыццё:

— Усё б нічога, хоць работа, вядома, не з лёгкіх,—ведаеш, што такое пракладваць дарогу ў тайзе... Але мошкі—гэта я табе скажу... К канцу дня вар'яцееш—сам гатовы кусацца. Вечарам усе злосныя, як чэрці, нікому слова не скажы. І ведаеш, што ратавала? Гітара. Распалім вогнішча—ночы там і ўлетку халодныя,—вазьму сваю сямiструнную і ціхенька гэтак, напаўголасу, нашы беларускія «Верасы»...

Гэты расказ успомніўся мне ў пустым класе кансерваторыі, дзе аўтар «Верасоў», седзячы за фартэпіяна, тлумачыў аднаму са сваіх вучняў нейкія складаныя законы паліфаніі. Вучань выглядаў старэйшым за настаўніка, з якім якраз пасля гэтых заняткаў у мяне і павінна была адбыцца гутарка.

Дагэтуль мне даводзілася сустракацца з Ігарам Лучанком дзесяткі разоў—і на канцэртах, і ў рэдакцыі, і проста на вуліцы. Мы гаварылі пра што хочаш, толькі не пра яго самога. Але вось трэба ўзяць у яго інтэрв'ю—і адразу высветлілася, што ўсё не так проста: сёння ў яго заняткі, заўтра трэба тэрмінова ехаць у Маскву, паслязаўтра... Урэшце я пачаў думаць, што чалавек проста пазбягае інтэрв'ю,—той, хто ведае Лучанка, пацвердзіць, што гэта ў яго звычках. Праўда, маглі быць і аб'ектыўныя прычыны: столькі абавязкаў, тытулаў і розных грамадскіх даручэнняў, як у Лучанка, ці ёсць яшчэ ў каго-небудзь з яго калег. Намеснік старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР, выкладчык кансерваторыі, член ЦК ЛКСМБ і кандыдат у члены ЦК ВЛКСМ, лаўрэат дзвюх прэмій Ленінскага камсамола—рэспубліканскай і ўсесаюзнай, абавязковы ўдзельнік шматлікіх журы, камісій і дэлегацый... Адным словам, спраў у 33-гадовага кампазітара сапраўды хапае. І, вядома, самая галоўная з іх—пісаць песні.

Я даўно ведаў, што ледзь не ўсіх сваіх знаёмых, так ці інакш звязаных з літаратурнай працай, Лучанок угаворвае даць яму «добры тэкст». Мне ніколі ў жыцці не даводзілася скла-



даць вершы, але я ўзяўся за гэта пасля таго, як, сустрэўшыся аднойчы з Ігарам на вуліцы, пачуў ад яго:

— Ведаеш, хачу зрабіць песню пра касманаўтаў. Але не такую, дзе адны «ура, ура!» Мы неяк прывыклі да гэтага і, здаецца, часам забываемся, што кожны крок у космас аплачваецца немалой цаной. Не ўсе ж адтуль і вяртаюцца. Слухай, паспрабуй, га?

Прапанова была настолькі нечаканая, што я гэтак жа нечакана згадзіўся. І вось цяпер, праз некалькі месяцаў, той выпадак зрабіў мне добрую паслугу: варта было Ігару пачуць, што ёсць тэкст для песні, як у яго адразу знайшоўся час для сустрэчы.

— Давай,—сказаў ён, перш чым я паспеў вымавіць пытанне, падрыхтаванае для інтэрв'ю.

І адразу ж пачаў чытаць, нават не чытаць, а дэкламаваць, паўтараючы па некалькі разоў асобныя радкі. Потым пачаў ціхенька напяваць, адбіваючы пальцамі рытм. Я, відаць, перастараўся, тэксту аказалася занадта многа, аж на цэлыя дзве песні, і мы дамовіліся аб новым варыянце. Толькі пасля гэтага я, нарэшце, змог задаць кампазітару сваё першае пытанне:

— З чаго пачынаецца песня?

— З таго, пра што мы зараз гаварылі,—ён паказаў на тэкст.—З вобраза. Не мае значэння, што з'яўляецца спачатку—словы ці музыка. Бывае па-рознаму. Але перш за ўсё павінен быць вобраз. Вось тут, напрыклад, гэта—касмадром Байканур; у іншых песнях—старая будзёнаўка, жураўлі, што ляцяць на Палессе, брыганціны, якія стаяць на рэйдзе... Іншымі словамі, тое, пра што песня. Дрэнна, калі ні пра што. Уласна кажучы, гэта не песня.

— Пра што ж была твая першая песня?

— Наўрад ці варта яе ўспамінаць— я не лічу яе сваёй творчай удачай. Я тады яшчэ ў школе вучыўся, здаецца, у дзесятым класе, граў на акардэоне—усё, што трапіцца пад руку. Памятаю, адпачываў на канікулах дома ў Пухавічах, і вось трапіў на вочы першы верш паэта Івана Шамава пра жонак лётчыкаў, пра іх вечную трывогу за каханых. Падабраў я мелодыю, і атрымалася песня—«для мясцовага карыстання». Яе я і выконваў на акардэоне. Слухачам, здаецца, падабалася...

— Аказваецца, кампазітар пачынаўся з акардэаніста?

— Так, яшчэ ў маленстве бацькі падарылі мне акардэон—маленькі такі, «чвэртку». Бацька хоць і не музыкант па прафесіі, а ўрач, але заўзяты меламан, грае на некалькіх інструментах—на піяніна, цымбалах. Ён і параіў мне паступаць у музычную школу. Але на ўступных экзаменах адбыўся інцыдэнт, які ледзь не разбурыў усе мае мары...

— Што ж здарылася?

— Нехта з экзаменатараў засумняваўся ў маім слыху. Выратавалі... цымбалы. І зноў дзякуй бацьку, які навучыў мяне граць на гэтым інструменце. Я выканаў некалькі невялічкіх твораў, і камісія больш ні ў чым, відаць, не сумнявалася. Ну, што было далей? Скончыў музычную школу-дзесяцігодку, адкуль, вядома, прамы шлях у кансерваторыю...

— А як ты прыйшоў да сваёй галоўнай тэмы—патрыятычнай песні?

— Не адразу, вядома. Спатрэбілася найперш скончыць кансерваторыю, зразумець, як і дзеля чаго пішацца песня. Так, менавіта дзеля чаго. Бо трэба ж мець што сказаць людзям. Гэта аднолькава датычыць і паэта, і кампазітара, і мастака. І яшчэ трэба каб быў унутраны напал, без якога, мне здаецца, няма і не можа быць сапраўднай творчасці. Як я прыйшоў да патрыятычнай песні?.. Нават не ведаю, ці можна пра гэта расказаць у некалькіх словах. Пэўна, гэта звязана шмат з чым—з любоўю да зямлі, на якой ты нарадзіўся і рос, з тваімі поглядамі на жыццё і на яго сапраўдныя каштоўнасці. Я, напрыклад, лічу, што галоўнае для кожнага з нас—мець у жыцці высокую мэту, імкнуцца да яе, адольваючы перашкоды. У сваіх песнях я перш за ўсё імкнуўся выказаць менавіта гэта. Напрыклад, «Памяць сэрца». Гаворка, здавалася б, ідзе пра памяць вайны, пра яе ахвяры, але галоўны сэнс песні нясе фраза «А побеждая, ты живешь!»—гэта датычыць і загінуўшых... Тое ж самае і ў «Хатыні»: «смотрит живым он в лица»—гэта пра помнік, які не толькі сімвал смутку, але і заклік да людзей быць моцнымі, мужнымі, пільнымі, каб абараніць жыццё ад вайны.

— Якія песні падабаюцца табе больш за ўсё?

— Свае ці чужыя?

— І свае, і чужыя...

— Ну, што датычыць чужых, дык мне давялося б пералічыць надта многа. Мне надзвычай падабаюцца песні Дунаеўскага, Салаўёва-Сядога. Фрадкіна, Пахмутавай... А са сваіх... Таксама не надта проста выбраць: іх жа ў мяне каля двухсот. Звычайна аўтару неяк бліжэй яго новыя творы. Калі выбіраць па гэтым прынцыпе, дык я назваў бы «Верасы», «Старую будзёнаўку», «Чырвоныя зоркі», «Спадчыну», «Алесю»...»

— Так, асабліва «Верасы», іх чуеш даволі часта.

— Гэта лірычная песня на вершы Іосіфа Скурко. Пра што яна? Было

каханне, ды лёс наканаваў хлопцу і дзяўчыне больш ніколі не быць разам. І абодва ведаюць, што мінулае не вернеш, але зноўку, як заўсёды, цвітуць верасы, значыць, жыццё працягваецца,—хай жа расцвітаюць верасы! Працуючы над музыкай, я імкнуўся зрабіць так, каб дамінавалі аптымістычныя ноты, хоць, на першы погляд, тэма крышку песімістычная.

— Каго ты лічыш сваімі настаўнікамі ў музыцы? Хто з кампазітараў даў табе больш за ўсё як кампазітару?

— Перш за ўсё, мой педагог у кансерваторыі Анатоль Васільевіч Багатыроў, потым кампазітар Вадзім Мікалаевіч Салманаў, у якога я два гады стажыраваўся ў Ленінградзе, і Ціхан Мікалаевіч Хрэннікаў, пад кіраўніцтвам якога я скончыў аспірантуру ў Маскве. Як кампазітару-песенніку мне вельмі многа даў Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў. Менавіта дзякуючы яму ў маіх песнях з'явілася тэма вайны. Вельмі люблю яго «Песню пра Брэсцкую крэпасць», «Песню пра Даватара», «Лясную песню»—я лічу, такіх у мяне пакуль што няма.

— А якія твае патрабаванні да песні?

— Галоўнае — дэмакратычнасць, папулярнасць. Я хачу, каб мае песні былі менавіта такія. Я б не сказаў, што мае песні простыя, у іх шмат рэчытатываў, і матыў не заўсёды лёгка запамінаецца. Іх не спяваюць усе, як, скажам, «Падмаскоўныя вечары»,—мае песні хутчэй для слухання і для індывідуальнага выканання. Вядома, было б нядрэнна і для масавага... Але гэта не так проста. Я вельмі баюся банальнасці ў музычнай мове і шмат увагі надаю пошукам свежай, сучаснай музычнай інтанацыі. Бо далёка не заўсёды тое, што гучала дзесяць гадоў назад, гучыць і сёння.

— Чаго, на твой погляд, не хапае сучаснай беларускай маладзёжнай песні?

— Перш за ўсё не хапае саміх песень. Іх проста мала. Колькі нашых кампазітараў працуе над маладзёжнай тэматыкай? Раз, два—і ўсё... Гэты пласт трэба распрацоўваць і ўшырыню, і ўглыбіню.

— Ігар, каго ты лічыш лепшымі выканаўцамі сваіх песень?

— Віктара Вуячыча, Тамару Раеўскую, Валерыя Кучынскага, Анатоля Падгайскага, Віктара Кірычэнку. З нядаўняга часу я далучаю да іх і Эдуарда Хіля—ён выконвае «Верасы», прычым на беларускай мове, і «Калі б камені маглі гаварыць».

(Я ведаю, што песні Ігара Лучанка часта гучаць у выкананні аўтара, і даволі нядрэнна. Адсутнасць нейкіх асаблівых вакальных здольнасцяў цудоўна кампенсуецца непасрэднасцю і прыродным артыстызмам кампазітара. Акрамя таго, хто лепш за аўтара ведае, як выконваць яго твор?)

Песні Ігара Лучанка ведаюць далёка за межамі Беларусі. Іх слухалі шахцёры Краснадона і маракі-балтыйцы, жыхары Крайняй Поўначы і Далёкага Усходу. Ім апладзіравала зала Крамлёўскага Палаца з'ездаў. Яны гучалі ў Японіі, Канадзе, Францыі, Швецыі. Летась у чылійскім горадзе Віньядэль-Мар адбыўся традыцыйны міжнародны фестываль песні, у якім наша краіна ўдзельнічала ўпершыню. Высокі гонар прадстаўляць тут савецкае мастацтва выпаў Ігару Лучанку і Віктару Вуячычу. За тысячы кіламетраў ад роднай зямлі, на далёкім кантыненце гучалі беларускія «Верасы», і апладзіравалі ім гэтак жа, як дома.

— Мне давялося пабываць таксама ва ўсіх сацыялістычных краінах, у Англіі, ФРГ,— успамінае кампазітар.— І ўсюды я адчуваў вялікую цікавасць да савецкай музыкі, усюды імкнуўся прапагандаваць беларускую песню. Зразумела, не толькі сваю.

Усе ведаюць Ігара Лучанка як кампазітара-песенніка. Але ці адзіны гэта жанр у яго творчасці?

— У мяне ёсць і камерна-інструментальныя творы — прэлюдыі, санаты, струнны квартэт, і вакальныя—рамансы, кантаты. Прынамсі, «Курган» па матывах паэмы Янкі Купалы, «Невядомы салдат» на вершы Пятра Харкова, «Балада пра салдацкае сэрца» на словы Аляксандра Пракоф'ева, вакальны трыпціх «Чалавеку патрэбна цішыня»... Ды хіба ўсе пералічыш?

— На якія вершы лепш пішацца музыка?

— Не на ўсякія, зразумела, а толькі на вобразныя, песенныя, калі можна так сказаць. Я лічу талент многія вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Анатоля Вялюгіна, Адама Русака. Ёсць у мяне песні на тэксты Льва Ашаніна, Роберта Раждзественскага, Генадзя Бураўкіна, Іосіфа Скурко, Валянціна Лукшы, Міхаіла Ясеня і многіх іншых паэтаў—як прафесійных, так і самадзейных. У гэтай справе ёсць адна тонкасць: на вершы, бездакорныя з пункту гледжання паэтычнай формы, далёка не заўсёды можна напісаць песню. І наадварот—песенны тэкст далёка не заўсёды можа і існаваць як верш у адрыве ад мелодыі. Напрыклад? «Кацюша», «Падмаскоўныя вечары»,—неяк цяжка ўявіць, каб іх не спявалі, а дэкламавалі. Вершы, прызначаныя для песні, не павінны паведамляць агульнавядомыя ісціны; яны павінны быць звернуты і да розуму, і да сэрца, але да сэрца ўсё ж крышачку больш. Людзі даруюць аўтару песні не вельмі дакладна зрыфмаваныя радкі, але не даруюць безаблічных, халодных слоў, хоць ты спявай, хоць дэкламуй—не ажывіш... Натуральна, музыка павінна складаць з тэкстам адзінае цэлае. Кажуць, з песні слова не выкінеш; мне хочацца дадаць: і ноты—не выкінеш.

— Вось мы гаварылі пра песенны вобраз, пра тое, што ён—галоўнае ў песні. А ці не бывае так, што вобраз ёсць...

— ...а песні няма, ты гэта хочаш сказаць? Бывае і так. І ў мяне было. Ведаеш, якую песню я маю на ўвазе? «Памяць сэрца». Так-так, тую самую, што потым прынесла выканаўцу Віктару Вуячычу і мне званні лаўрэатаў Усесаюзнага конкурсу савецкай песні. Але гэта было пасля. А спачатку... Напісаў я музыку, але адчуваю—няма ў ёй нечага такога... адным словам, галоўнага няма, што кранала б за жывое. Памятаеш: «не спится только ветерану, войны минувшей партизану...» Уяўляю сябе на яго месцы, але ўсё роўна нічога не атрымліваецца. І вось аднойчы еду прыгарадным цягніком у Пухавічы, бацькоў адведаць. У вагоне разгаварыўся з выпадковым спадарожнікам. Аказалася, ён у вайну быў партызанам, прайшоў, як кажуць, праз агонь і ваду. Гэты немалады ўжо чалавек, між іншым, расказаў мне пра тое, як на руінах сваёй спаленай хаты ўбачыў знявечаныя целы жонкі і дачкі з выкалатымі вачыма... Той ноччу, памятаю, я доўга не мог заснуць, а недзе на досвітку, нарэшце, знайшоў тое, чаго так не хапала мелодыі будучай песні...

Я задаю Ігару Лучанку апошняе пытанне:

— Што ты пішаш цяпер і што марыш напісаць?

— Адна з апошніх песень навеяна паездкай на Кубу, яна называецца «Дружба» (на словы Сяргея Васільева). Тут я паспрабаваў злучыць беларускую мелодыку з лацінаамерыканскім рытмам. Не ведаю, ці добра атрымалася, мне здаецца, нядрэнна, а зрэшты, няхай аб гэтым мяркуюць іншыя. Пра што мару напісаць? Пра многае! Па-першае, добрую, шчырую, песню пра камсамол, пра рамантыку камсамольскага юнацтва. Мяне даўно вабіць тэма гераікі, калі людзі ідуць на самаахвяраванне за ідэю. Мы ўжо гаварылі пра песню аб касманаўтах. І пра каханне хачу напісаць... У маі будучага года ў Мінску адбудзецца Усесаюзны фестываль камсамольскай песні—як жа застацца ўбаку ад гэтай падзеі? І да Міжнароднага фестывалю моладзі ў Берліне... Хачу зрабіць нешта накшталт «Если бы парни всей земли...»

Мой субяседнік раптам спахапіўся: сёння ў жонкі дзень нараджэння, зараз зачыняцца магазіны, і прыйдзецца ісці дамоў без падарунка. Па вачах Ігара бачу, што адна гэтая думка прыводзіць яго ў жах. Разам бяжым у «Паўлінку», праскокваем у дзверы разам з апошнімі пакупнікамі і выходзім з вялізнай шкатулкай, арнаментаванай рознакаляровай саломкай. Цяпер у суседнюю «Ласуху»—трэба ж запоўніць «тару»! Па тым, як Ігар старанна выбірае розныя гатункі цукерак, бачу, што маю справу з узорным сем'янінам. Аказваецца, жонка ў яго таксама музыкант, скончыла музычнае вучылішча па класе вакалу і цяпер рыхтуецца абараніць яшчэ адзін дыплом—ужо як спецыяліст па тэорыі музыкі. Відаць, вартасць падарунка будзе ацэньваць і прадстаўнік малодшага пакалення сям'і Лучанкоў—шасцігадовая Света.

Ля філармоніі мы развітваемся. У Ігара заняты абедзве рукі: у адной партфель, у другой шкатулка.

«Не забудзься на песні!»—чую я наўздагон.

**Аркадзь КАРЭЛІН.**





Міхась ЧЭПІК. Свята ўраджаю.



Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК. А. Р. Чарвякоў у У. І. Леніна. Студзень, 1923 год.

# ЧЫСТАЕ ДЫХАННЕ СНЯГОЎ

Бывае так. Даўно ведаеш і любіш мастака. Захапляешся яго работамі на выстаўцы ці ў майстэрні. Думаеш, што ведаеш яго добра, і новае ў ім адкрыеш толькі ў будучым, калі яно праявіцца ў новых яго работах.

Але вось прыходзіш на персанальную выстаўку гэтага мастака — у вялікую залу, дзе размешчаны толькі яго карціны. Стаіш, глядзіш — здаецца, амаль усё знаёмае, і раптам адчуваеш, што гэтыя ўжо знаёмыя табе карціны ты недзе ў нечым раней недаацаніў, не да канца зразумеў альбо зразумеў не зусім правільна. А сабраныя ўсе разам, яны адкрываюць стройнасць і змястоўнасць думак, пачуццяў, перажыванняў мастака пад нейкім іншым, болей шырокім, кутом гледжання асвятляюць усю яго творчасць.

Нэла Шчасная пачала маляваць позна. Займалася музыкай, марыла стаць балярынай. Ёй было адзінаццаць гадоў, калі яна захварэла і на цэлы год пакінула школу — дактары забаранілі ёй вучыцца. Яна чытала запоем кнігі з хатняй бібліятэкі. Гэта былі старыя цудоўныя кнігі з рэпрадукцыямі гравюр Дарэ і Дзюрэра. Нэла падоўгу разглядвала гэтыя рэпрадукцыі, а потым рашыла... перамалёўваць іх. Па некалькі гадзін у дзень яна праседжвала за сталом, перамалёўваючы алоўкам на паперы ілюстрацыі да кніг Сэрвантэса і Рабле. Капіравала старанна, вымалёўваючы найдрабнейшыя дэталі. Забава перарасла ў захапленне, а потым — у страсць. У чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў яна наведвала ізастудыю Мінскага Палаца піянераў, якою кіраваў Сяргей Пятровіч Каткоў, потым паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча, а пазней скончыла аддзяленне жывапісу Ленінградскай Акадэміі мастацтваў.

Першы раз я пачула пра Нэлу Шчасную гадоў шэсць таму назад. Свет жывапісу для мяне тады толькі адкрываўся. Са сваімі сябрамі-фізікамі я прыйшла неяк у музей і ў адной з залаў першага паверха заўважыла яе карціны. Яны былі напісаны ў Сярэдняй Азіі, дзе мастачка пражыла некалькі год, і здавалася, што кожная з іх яшчэ захоўвае ў сабе гарачыню сярэднеазіяцкага сонца.

Прайшоў год, другі. Сустрэчы з мастацтвам прыносілі мне ўсё большую радасць. І вось адкрылася «Выстаўка маладых», прысвечаная 50-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. На гэтай выстаўцы было нямала цікавых работ, але найцікавейшымі з іх для мяне былі дзве карціны Нэлы Шчаснай: жамчужна-шэрая «Лазня» і ізумрудна-зялёная «Беларуская дзяўчына». Сама Шчасная да сваёй «Дзяўчыны» адносіцца халадней, чым да другіх сваіх карцін. Мне болей не давялося бачыць гэтае палатно — яно куплена адным з рэспубліканскіх музеяў, але я помню тое пачуццё маўклівай асалоды, якое тады завалодала мною: статная славянка, закінуўшы галаву і прыжмурыўшы вочы, стаіць у сонечных праменнях, сонца залоціць яе светлы твар, асабліва пяшчотны на фоне цёмнай зелені.

Карціны «Лазня» і «Беларуская дзяўчына» былі першымі палотнамі, намаляванымі ў той своеасаблівай манеры, той тэхніцы, якая ўласціва толькі ёй, Нэле Шчаснай. Мастачка па-свойму грунтуе палатно.

Цэласная карціна складаецца як бы з хаосу мікраэлементаў. Сама Шчасная тлумачыць сваё імкненне да такой тэхнікі ўскладненым уяўленнем пра свет, пра матэрыю, якое склалася ў XX стагоддзі. Але яе манера найбольш прываблівая тым, што абуджае мастацкае ўяўленне чалавека. «Лазня» — бліскучае прымяненне той тэхнікі, якую вынайшла для сябе Нэла Шчасная. У срабрыстым тумане чалавечыя постаці то знікаюць, то паяўляюцца зноў. Шурпатая паверхня дзівосна рассейвае святло, самая нязначная перамена ў асвятленні ўзмацняецца ёю, твары людзей не застаюцца пастаяннымі, выраз іх мяняецца. Карціна зменлівая і шматзначная, як само жыццё.

Творы Нэлы Шчаснай вельмі сучасныя. Яна ўмее знайсці дэталі, якія гавораць аб прыналежнасці чалавека да нашага часу. «Вясёлка» — маці і дзіця. Вечная тэма. Але хіба гэты жэст, якім маці абхапіла дзіця і прытуліла яго да сябе, не гаворыць пра жанчыну, якая жыве ў наш трывожны час, калі на планеце не гаснуць войны? І «Лазня» — гэта не толькі зыбкасць, туман, гармонія фарбаў, але і праўдзівы расказ, і роздум аб трох пакаленнях жанчын, аб іх розным лёсе.

Заўсёды неяк боязна знаёміцца з людзьмі, чые кнігі, карціны, музыку ты любіш. Боязна, што расчаруешся ў чалавеку і яго творчасць не будзе больш прыносіць табе асалоды. А Нэла такая ж светлая душой, як і яе мастацтва.

Я люблю на выстаўках прыслухоўвацца да размоў, якія ідуць ля яе карцін. Амаль ніхто не праходзіць міма іх з абыякавым выглядам. Калі быў выстаўлены партрэт пісьменніка Івана Мележа, я назірала аднойчы за юнаком, што доўга стаяў каля партрэта. Не вытрымала, спыталася пра яго ўражанне. Юнак, аспірант з Масквы, быў немнагаслоўны: «Здорава!»

Можа здацца дзіўным, што Нэла з яе мяккай лірычнасцю ўзялася за партрэт аўтара такіх суровых кніг, як «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Але партрэт ёй удаўся. Попелавы каларыт, светлая ўсмешка чалавека, які прыслухоўваецца да нечага ў прыродзе і ў самім сабе. Цёплы сакавіцкі дзень. Чыстае і вільготнае дыханне апошняга снегу. Смутная трывога перад абнаўленнем зямлі...

Любімая тэма жывапісу Шчаснай — жанчына, жаночы лёс. Яна апявае пяшчотную, разумную, адухоўленую жаноцкасць, узнімае жанчыну над штодзённым побытам. Чароўная яе карціна «Капяжы» (партрэт сястры). Гэта здзіўляючы прыклад таго, як можна стварыць вобраз, не выпісваючы традыцыйна твар, рукі. Мяккасць колеру, плаўнасць ліній стварае пяшчотны, задумены і моцны прасветленасцю і багаццем сваёй душы характар.

Прыгажосць, дэкаратыўнасць палотнаў для мастачкі не самамэта. Яны даюць не толькі асалоду для душы, але і работу для розуму. Вось дзяўчына, якая сядзіць ля вогнішча. Доўгія стройныя ногі асветлены полымем, твар — у цені, і ад гэтага ён здаецца прыгожым і загадкавым. Многа думак пра жыццё, пра лёс нарадж ае гэтая карціна. Бесклапотны смех сціхае перад ёю, як сціхае ён, калі гавораць пра далёкія сузор'і.

Слёзы просяцца на вочы, калі глядзіш на карціну Шчаснай «Пад сонейкам». Тоненькая высокая дзяўчынка-падлетак стаіць на пальчыках, падняўшы плечы, і трымаецца рукой за сланечнік. Кожны пялёстак сланечніка, кожная клетачка цела дзяўчынкі выпраменьваюць надзею і любоў. Надзею пакуль яшчэ няпэўную — проста на нешта добрае, і любоў да ўсяго навакольнага свету. Так і стаяць яны, дзве раслінкі, пяшчотныя і бездапаможныя, у надзеі на нечую добрую абарону.

Журботнай мудрасцю вее ад апошняй работы Нэлы Шчаснай — «Аўтапартрэта». У жэсце, якім мастачка ловіць сняжынкі, ёсць і нешта наіўнае, і нешта па-філасофску глыбокае. Гэтае спалучэнне наіўнасці і сталасці, як стрэмка, застрае ў душы і прымушае не спяшацца да выхаду, спыніцца і яшчэ раз агледзець карціну.

Тое, што Нэла Шчасная звярнулася да гравюры, нельга лічыць выпадковым. Шмат гадоў яна займаецца кніжнай графікай, афармляе дзіцячыя кніжкі.

Графіка Шчаснай і прадаўжае традыцыі жывапісу, і адступае ад іх. Знаёмы нам лірызм, дабрату знаходзім у гравюрах «Коцікі», «Дзьмухаўцы», «Зламаны рамонак».

Калі вочы жанчын на карцінах Шчаснай падобныя на кветкі, то кветкі яе гравюр глядзяць на нас чалавечымі вачамі. І «Зламаны рамонак» з серыі «Вайна» ўспрымаецца як сімвал чалавечага жыцця, загубленага вайной.

Ёсць гравюры, якія адрозніваюцца ад стылю карцін мастачкі. У карцінах элемент фантастычнага ўносіць тэхніка, у гравюрах мы бачым фантастычны элемент, узмоцнены пабудовай малюнка,— напрыклад, у работах «Рука сусвету», «Завіруха», «Партрэт дачкі». І калі партрэт дачкі натуральны і гарманічны, хоць і некалькі халаднаваты, то ў «Завірусе» адчуваецца некаторы дысананс паміж умоўнасцю прыёму і залішняй канкрэтнасцю намалянага.

Гравюра «Дзеці» — таксама адыход мастачкі ад свайго жывапісу, але ў бок, супрацьлеглы ўмоўнасці. Можна было б папракнуць мастачку ў залішняй скрупулёзнасці, амаль фатаграфічнай, калі б тут не было вечнага цуду мастацтва — прысутнасці асобы мастака, цеплыні і дабраты яго душы. Ліст мае асаблівую атмасферу свежасці, задушэўнасці.

У творчасці Нэлы Шчаснай ужо выявіліся абрысы таго свету, які завецца светам мастака. Нэла яшчэ маладая (паводле ўяўленняў старажытных грэкаў, росквіт творчых сіл чалавека бывае ў 44—46 гадоў, значыць, у запасе ў Нэлы яшчэ дзесяцігоддзе), яна многа працуе. Так што яна яшчэ не раз парадуе прыхільнікаў свайго таленту. А іх нямала.

**Людміла ГАНЧАРОВА.**




# 1973

## ЛЮТЫ

**1**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. А. Алешкі, беларускага пісьменніка. Памёр у 1971 г.



А. А. Алешка.

**4**

55 гадоў назад (1918) Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў выдаў дэкрэт аб роспуску гарадской думы і ўправы. Усё кіраванне жыццём горада перайшло ў рукі Савета.

**5**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Л. Д. Шчамялёва, беларускага мастака-жывапісца.



Л. Д. Шчамялёў.

**6**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) М. І. Вядуты, вучонага-эканаміста, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

75 гадоў з дня нараджэння (1898) Р. А. Пёрышкіна, вучонага ў галіне будаўнічай вытворчасці, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. А. Ахрэма, вучонага-хіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**11**

15 гадоў з дня адкрыцця (1958) XX з'езда ЛКСМБ.

**14**

55 гадоў з дня адкрыцця (1918) народнага ўніверсітэта ў Мінску.

60 гадоў з дня нараджэння (1913) В. К. Цвіркі, народнага мастака БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.



В. К. Цвірка.

**15—19**

40 гадоў назад (1933) праходзіў І Усесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў.



**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) В. І. Казлова, вядомага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Памёр ў 1967 г.



В. І. Казлоў.

60 гадоў з дня нараджэння (1913) С. О. Прытыцкага, вядомага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Памёр у 1971 г.

80 гадоў з дня нараджэння (1893) М. І. Гарэцкага, беларускага пісьменніка. Памёр у 1939 г.

**20**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) Л. М. Даватара, генерал-маёра, Героя Савецкага Саюза. Загінуў у 1941 г.

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Я. М. Лобанава, вучонага-фізіка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.



С. О. Прытыцкі.

**22**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) А. Н. Сеўчанкі, вучонага-фізіка, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, акадэміка Акадэміі навук БССР, Героя Сацыялістычнай Працы.

**23**

**Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.**

**28**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) І. В. Мядзведзева, беларускага мастака-графіка.

55 гадоў назад (1918) на падпольным сходзе камуністаў утвораны Мінскі падпольны камітэт РСДРП(б).



М. І. Гарэцкі.



А. Н. Сеўчанка.

# КОЖНЫ РАДОК ПРАЖЫЦЬ САМОМУ



## ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

### 1

Пімен Панчанка ўвайшоў у літаратуру імкліва і ўпэўнена. У 1934 годзе ён апублікаваў у рэспубліканскім друку першыя вершы, а ўжо праз чатыры гады быў аўтарам першай кнігі. Яна так і называлася «Упэўненасць». Было ў гэтай назве адчуванне паэтавага пакалення, перад якім жыццё раскрыла светлыя далягляды. Было ў ёй і адчуванне самога паэта, які верыў у свае сілы і наважыў сказаць сваё слова ў літаратуры.

У кнізе «Упэўненасць» над усім пануе радасць. Радасць ад таго, што гулкі мост азваўся громам імкліваму паравозу, які павёз у калгас трактары. Ад таго, што дзяўчына панесла ў вёдрах з крынічнай вадой два сонцы. Ад таго, што калгаснікі перасадзілі ў калгасны сад яблыню, якая самотна расла на скрыжаванні дарог.

Паэт шукае для сваіх вершаў фарбы яркія, радасныя і бадзёрыя. Такія, каб перадавалі настрой лірычнага героя, якому «хацелася смяяцца, спяваць і бегчы ўдалеч». Толькі часам у вершы закрадваецца сум, але паэт гоніць яго прэч: «Ды нашто сумаваць, калі б'е ў сто гарачых струменяў жыццё».

У прасторным свеце панчанкаўскай лірыкі яго герою лёгка працуецца, шчасліва жывецца, радасна кахаецца.

Паэт у сваіх пачуццях сабраў і выказаў словам тыповыя рысы свайго пакалення. Бо ён сам разам з ім вучыўся ў школе, слухаў успаміны старэйшых пра баі і паходы грамадзянскай вайны, перажываў, што на планеце толькі два полюсы і тыя ўжо адкрыты, зайздросціў старэйшым, якія будавалі Днепрабуд, Магнітку і Кузбас, захапляўся дружнай працай калгаснікаў.

Недастатковы жыццёвы вопыт не даў магчымасці паэту паказаць усю складанасць жыцця, але ён выказаў не менш важнае—радасць ад усведамлення шчасця, шырыні, прастору, якую дала яму і ўсяму яго пакаленню савецкая ўлада.

У час вайны П. Панчанка напіша нямала вершаў, прасякнутых болем і пакутамі. Але нават у самым трагічным з іх, «Маё і тваё маленства»,—пра гора хлопчыка, які нарадзіўся ў сорак першым на заняволенай зямлі,—зноў ажыве настрой і духоўны свет лірычнага героя «Упэўненасці». Ажыве праз успаміны паэта, праз факты яго біяграфіі.

Маленства!  
Ты гарыш агнём начлежным,  
Ты школьным заліваешся званком.  
Ты заміраеш з вудай над ракою,  
Пра вандраванні сніш вясною сны.  
Гучыць пачаткам песні над табою  
Світальны голас труб берасцяных...  
Каб вырас я настойлівым, упартым,  
Радзіма, нахіліўшыся над партай,  
Цяжкому рамяству мяне вучыла—  
Тварыць і жыць.  
І кроў кіпела ў жылах,  
Настоеная густа на праменні,  
На водары гаёў, зарніц і траў.  
Нядарма для свайго я нараджэння  
Год дзевяцьсот семнаццаты абраў.

### 2

З восені 1939 года П. Панчанка служыць у Чырвонай Арміі, удзельнічае ў вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, працуе ў армейскай газеце ў Беластоку.

Гэтая старонка грамадзянскай біяграфіі П. Панчанкі вельмі многа значыць у яго творчай біяграфіі. У 1940 годзе выходзіць з друку другая кніга вершаў «Вераснёвыя сцягі». У ёй ёсць яшчэ ноты лірычнай бесклапотнасці, юнацкай бясхмарнасці. Ёсць нават спроба параўнаць аблаву на ўзброеных ворагаў, якія схаваліся ў прымежным гаі, з дзіцячай гульнёй «у качулкі». Але ёсць і прыкметная розніца. Бурны час прынёс у паэзію П. Панчанкі новыя тэмы, і новыя вобразы. Любоў да роднай зямлі набыла куды больш глыбокі сэнс, словы паэта пра нянавісць да «праклятага ладу старога», ад якога адгарадзіў яго Вялікі Кастрычнік, напоўніліся канкрэтным зместам.

П. Панчанка паказвае радасць заходнебеларускіх братоў, якія змагаліся за ўз'яднанне і дачакаліся яго. Ён успамінае, як «дзяўчаты з навакольных сёл кветкі сеялі па шляхах», як людзі неслі насустрач сваім вызваліцелям разам са словамі вітання і падзякі на вышытых ручніках хлеб-соль. Паэт славіць тых, «хто пад Вільняй лёг», і тых, «хто пад Гродняй лёг», вызваляючы родных братоў ад уціску і заняволення. Ён знаходзіць сардэчныя словы, каб хоць крыху суцішыць боль маці свайго баявога таварыша, які пад жураўлінымя крыкі і развітальныя залпы пахаваны «там далёка, пад Ломжай у зямельцы пуховай».

Паэт глядзіць на свет вачыма ўсё таго ж лірычнага героя, свайго равесніка. Але і бачыць ён куды больш і разумее падзеі куды глыбей. У творах паяўляецца тая засяроджанасць на лёсе чалавека, тая гатоўнасць адклікацца сэрцам на ўсе яго радасці, гора і пакуты, якая характэрна для ўсёй наступнай творчасці П. Панчанкі.

Над светам ужо бушавала вайна, развязаная нямецкім фашызмам. Гора людзей, якіх вайна выгнала ў бяздомны свет, сваю заклапочанасць лёсам чалавецтва паэт выказаў у вершы «Журавы»:

Шкада мне іх—не вернуцца яны:  
На поўдні лютуе крывавы бог  
вайны.  
Там гнёзды спалены,  
Там птушаняты знішчаны,  
Смяротны дым плыве над  
папялішчамі.

Гэта верш не пра птушыны вырай. Больш правільна сказаць, гэта верш і пра птушыны вырай восені 1939 года, і пра вайну, і пра духоўны свет савецкага паэта і салдата, якому баляць усе раны няшчасных людзей.

У сваіх вершах П. Панчанка паказвае вобраз старога свету, з якім яго сутыкнула рэчаіснасць. Ён малюе постаць панскага парабка, што з-за працы не бачыў свету белага, «з бядою еў, з бядою спаў», галадаў без хлеба, слеп ад горкага дыму лучыны. Ён успамінае забытае слова «жабрак», і яно для яго напаўняецца жывым зместам.

Гэта страшная праўда, не сон—  
Ля касцёла сядзяць жабракі.  
Скупа сыпле журботны звон  
На далоні калек медзякі.

У вершах «Абываццелі», «Прысуд», у паэме «Беластоцкія вітрыны» П. Панчанка намаляваў жывыя партрэты былых «гаспадароў» жыцця, тых, хто нажываўся на горы і пакутах працоўнага народа. Галерэя гэтых партрэтаў даволі багатая. Тут абываццелі, якіх не турбуе нічога ў свеце, апроч уласнай выгады, якія ведаюць адно: спаць, есці і збіраць капейкі. Тут гандляр, для якога шалясценне чырвонцаў мілей за ўсё на свеце. Тут фабрыкант квасу, які пыхліва думае: «хоць і грашовая фабрыка квасная, усё ж такі ўласная». Паэт бязлітасна высмейвае іх лад жыцця, іх затхлы духоўны свет, іх мараль, іх закон—крыўдзі, абірай, зневажай слабага, ашуквай, дзе толькі можна, і падай ніц перад дужым, большым за цябе драпежнікам.

Паэт пачынае шырока карыстацца сродкамі гратэску, шаржу, знішчальнай іроніі. Гэта дае яму магчымасць адным-двума штрыхамі схапіць тыповае ў вобразе, паказаць яго як бы праз павелічальнае шкло.

Ёсць у П. Панчанкі верш «Сталасць»—пра тое, як ён у жыццёвых выпрабаваннях сталеў і набіраўся во-

пыту. Яна, яго сталасць,—гаворыць паэт,—ішла з някошаных лугоў, «пакуль я ў садзе жартаваў з юначкаю-вясной». Паэзія П. Панчанкі ад таго, што набралася большага вопыту, не стала менш усхваляванай і тэмпераментнай. Але яна стала багацейшая на пачуцці, больш шырока пачала ахопліваць жыццё, куды далей бачыць і глыбей пранікаць у сутнасць з'яў. Яна стала больш уважлівай, паэт адчуў большую адказнасць перад людзьмі і часам. У вершы «Сталасць» ён прызнаецца: «Як быццам небасхіл цяжкі на плечы мне налёг». Паэт стаў іншым, і навакольны свет перамяніўся разам з ім. Падраслі сябры маленства, у косах роднай маці прыбавілася сівізны.

Глядзяць каштаны на мяне
І шэпчуць: «Падужэў».
Пасуравеў пагляд вачэй.
Стражэй абрысы губ.
Зямля,
Ты стала для мяне
Радней і даражэй.

### 3

Апрануўшы вайсковы шынель увосень 1939 года, П. Панчанка скінуў яго толькі, дэмабілізаваўшыся з арміі ў пачатку 1946 года. У гады вайны паэт працуе ў вайсковых газетах, прымае ўдзел у баях на розных франтах. Пра ўсё, што П. Панчанка пабачыў, перажыў і перадумаў у той грозны і цяжкі час, ён расказаў у сваіх кнігах «Дарога вайны» (1943) і «Далёкія станцыі» (1945).

«Калі мая песня каго й хвалявала, то тая, апранутая ў шынель»,— скажа паэт праз многа гадоў пасля. Скажа залішне сурова ў дачыненні да сваёй творчасці першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Але ў гэтым прызнанні была доля праўды. У гады вайны ён працаваў з вялікім творчым напружаннем, узважваючы кожнае слова сэрцам, ацэньваючы кожны верш прыдзірліва і патрабавальна.

«У вайну,—успамінае П. Панчанка,—многае правяралася самай бязлітаснай меркай не толькі ў людзях, але і ў літаратуры. Праўда патрэбна была як ніколі. Праўда жыцця, праўда пачуццяў...»

Лірычная песня паэта, як мы ведаем, пачалася лёгка і радасна. Здавалася, што само жыццё шаптала яму словы і рыфмы, толькі бяры і пішы: «...Гай шумеў зялёны, пяросты дзяцел на бярозе стукнуў—я рыфмай нечакана адказаў». У гэтай непасрэднасці, у гатоўнасці расказаць вершамі пра ўсё, што цябе акружае, у гэтай лёгкасці ператварэння навакольнага свету ў малюнкі і вобразы ёсць свая прывабнасць.

Але наколькі глыбей пачаў паэт глядзець на свет у гады вайны, як вырас, пасталеў і памужнеў ён і як паэт і як грамадзянін у агні суровых выпрабаванняў. Ён зазірнуў у самую глыбіню душы савецкага чалавека, які не шкадаваў нічога ў барацьбе з ворагам. Зазірнуў і зразумеў, на якія вышыні павінна ўзняцца мастацкае слова, каб перадаць сілу духу савецкіх людзей, глыбіню іх любові да Радзімы, каб засведчыць перад усім светам веліч іх спраў і пачуццяў.

У ваенных вершах П. Панчанка часам называе сябе летапісцам. Летапісцам не ў старым значэнні гэтага слова, калі чалавек, адгарадзіўшыся ад жыцця чатырма сценамі, добрасумленна і спакойна запісвае падзеі, каб нашчадкі ведалі, што рабілася на зямлі да іх. «Летапісец» у лірыцы П. Панчанкі ўспрымаецца як чалавек, які абавязаны як мага паўней, як мага больш глыбока расказаць пра самую жахлівую з войнаў, якую калі-небудзь ведала гісторыя. Ён абавязаны на ўвесь рост паказаць мужнасць савецкага чалавека, знайсці словы, якія перадалі б меру яго гора, якія намалявалі б трагедыю замучаных і скатаваных ворагам.

На вогненнай зямлі ў сталёвым свісце
Тут кожны воін б'ецца за траіх...
Як мала сіл, каб стаць іх летапісцам,
Як мала слоў, каб расказаць пра іх.

Паміж гэтымі радкамі, напісанымі на фронце ў 1943 годзе, і радкамі пра рыфму, якая адгукнулася на стук дзятла, пралягла вайна. Паміж імі—разуменне паэзіі як справы ўсенароднага значэння, як подзвігу, які патрабуе, каб паэт аддаваў творчасці ўсяго сябе, усе свае сілы.

Мастацкі летапіс Вялікай Айчыннай вайны не пад сілу зрабіць аднаму паэту, які б ён таленавіты ні быў. Гэты летапіс ствараўся па гарачых слядах падзей усёй савецкай літаратурай. Пішацца ён сёння і будзе пісацца заўтра. Разам з тым нельга не бачыць, як многа для разумення патрыятызму савецкага чалавека, глыбіні яго любові да Радзімы, свету яго пачуццяў дае паэзія П. Панчанкі ваеннай пары.

Кнігі «Дарога вайны» і «Далёкія станцыі» ўяўляюць сабою як бы цэласны лірычны дзённік, першыя старонкі якога пачаліся пад выбухі фашысцкіх бомбаў і гул самалётаў над Беластокам, дзе П. Панчанку застала вайна, а апошнія—азораны радасцю Перамогі і звароту паэта і воіна на родную зямлю.

Паэзію П. Панчанкі хвалявала ўсё, чым жылі савецкія людзі ў тыя дні.



Ён расказаў пра подзвіг жлобінскага хлопчыка Сашы Тышкевіча, уславіў французскіх лётчыкаў, якія ў савецкім небе помсцілі фашыстам за сваю Францыю. Ён прысвяціў шчырыя словы савецкім дзяўчатам-рэгуліроўшчыцам і санітаркам, якія разам з салдатамі дзялілі выпрабаванні вайны, усхвалявана прывітаў воіна, які першы ступіў на беларускую зямлю...

Пераважнае месца ў ваеннай, як і наогул ва ўсёй паэзіі П. Панчанкі, займае лірыка. Перад намі часцей за ўсё паўстае сам паэт са сваімі пачуццямі і перажываннямі, сваім болем і горам, са сваёй біяграфіяй. Але пра ўсё гэта расказана так праўдзіва, кожнае слова ўвабрала ў сябе так многа, што паэтава асабістае робіцца агульным, нашым. У сваіх вершах П. Панчанка дасягнуў самага запаветнага, да чаго павінен імкнуцца паэт,— праз свае пачуцці выказаў пачуцці народа.

Сваю з'яднанасць з народам, з яго горам і выпрабаваннямі, сваю вернасць роднай зямлі паэт добра выказаў у вершы «Артабстрэл»:

То не шкло на камені,
А вочы мае раструшчаны;
То не дрот са слупоў,
А жылы мае пакручаны.
І не чорныя галавешкі
Датляваюць на бруку.
Гэта ногі мае гараць,
То смыляць мае рукі.

### 4

Радзіма... Велічнай і прыгожай, ласкавай і добрай, грознай і суровай паўстае яна з ваенных вершаў П. Панчанкі. У дні цяжкіх выпрабаванняў яна пазбірала пад ваенныя сцягі сыноў з усіх сваіх неабсяжных прастораў і блаславіла на бітву з лютым ворагам.

У пачуццях лірычнага героя П. Панчанкі няма ні ценю нацыянальнай абмежаванасці. Неадольная сіла франтавога братэрства была ў тым, што савецкія людзі жылі адным пачуццём помсты, адным жаданнем разграміць фашызм. Грозныя выпрабаванні яшчэ больш умацавалі пачуццё адзінай сям'і. Алтайцы, сібіракі, уральцы змагаліся і паміралі, вызваляючы беларускія гарады і сёлы, з такой жа самаахвярнасцю, як і беларусы. Бо для ўсіх іх гэта была родная савецкая зямля. Слёзы і стогны закатаваных беларускіх маці і дзяцей, попел спаленых хат, здратаваныя нівы, шыбеніцы на плошчах гарадоў адгукаліся аднолькава глыбокім болем ва ўсіх савецкіх воінаў—рускіх і ўкраінцаў, літоўцаў і ўзбекаў... У вершы «Сяброўства» П. Панчанка пісаў:

«Вайна нас пазбірала і здружыла. І мы адчулі, што адна ў нас кроў, што нас усіх адна зямля ўскарміла».

Вобраз роднай Беларусі ў ваенных вершах П. Панчанкі намаляваны ў безлічы дэталяў і падрабязнасцяў, якія назаўсёды западаюць у сэрца. Ідучы на фронт, лірычны герой П. Панчанкі ўзяў з сабою яе ўсю—з аксамітнымі лугамі, залатымі нівамі, задумлівым шэлестам бяроз, з халадком перадранішніх рос... Можна бясконца пералічваць вобразы роднага краю з ваенных вершаў паэта. Яны і грэюць яго, і даюць сілы пераносіць пакуты, і мацуюць веру ў перамогу. Яны і прымушаюць пакутаваць ад таго, што ўсё гэта хараство забрана ворагам. Яны і клічуць хутчэй вызваліць родную зямлю, залячыць яе раны. І кожны такі вобраз сагрэты сэрцам паэта, якое б'ецца суладна з сэрцам народа.

Вось з нямецкага тылу ў сваю часць спяшаецца воін. Сама прырода спрыяе, каб ён дабраўся да сваіх і расказаў пра ўсё, што бачыў: «І знік, як вецер, коннік. І вечар сляды старанна прыкрыў зарою». («Конь»). Свае сляды сярод верасу пазнае герой верша «...Кожны з нас прыпасае Радзімы куток». Выходзячы з акружэння разам з часцю ў сорак першым палаючым годзе, ён горка перажывае рoстань з роднай зямлёй, стараецца запомніць усе раны, усё гора і пакуты, якія прынёс ёй вораг, каб жорстка і бязлітасна помсціць яму. Толькі на момант успамінае ён мінулае: «Дым над хатай, снапамі прыціснуты ток, матчын спеў і гароды, прапахлыя кмінам...» Але ява вяртае яго да жахлівых малюнкаў:

Развіднела, а певень людзей не будзіў.
Цішыня, мёртвы попел. Ні стуку, ні груку.
Толькі клён, што мой бацька калісь пасадзіў,
Грэў на сонцы свае абгарэлыя рукі.

Штуршком для разгортвання дарагіх з маленства вобразаў служаць паэту самыя розныя падзеі альбо з'явы. У накат бліндажа пачаў стукаць дзяцел. Паэт пытаецца: «Можа гэта мой мінскі клён ці барысаўская вярба дзіва дзіўнае перадаюць, спавяшчаюць пра пра нечы лёс?» Савецкія войскі вызвалілі Гомель. Паэт быў у гэты час на іншым фронце. Але адна гэтая вестка абудзіла ў яго столькі паэтычных вобразаў і пачуццяў! «Хай не я, а таварыш мой першым па Гомелі крочыць, у яго—маё сэрца, пачуцці, і думкі, і вочы». І паэт дае волю гэтым пачуццям. Здаецца, што ён зноў чуе «жураўліныя трубы над сузор'ямі журавін», як некалі ў маленстве. Здаецца,

што ён уласнымі далонямі кратае «травы палескіх нізін».

Мусіць ніколі—ні да вайны, ні пасля яе—П. Панчанка не рыфмаваў з такой любасцю назвы родных рэк, гарадоў, вёсак, дарог, як у франтавых вершах. У самую цяжкую пару, калі дарагія прасторы таптаў чужынец, паэт марыў: «Я хацеў бы чытаць свае вершы Дзвіне і Бярозе, ці з чачоткавым кіем у Слуцак ісці па дарозе».

Для П. Панчанкі Радзіма—паняцце вельмі велічнае і глыбокае. Гэта і валдайскія сопкі, за якімі гарэлі рускія сёлы, гэта і «Прыбалтыкі землі родныя, брацкія, дзе палеглі за працаю годы лепшыя бацькавы», гэта і Сібір, і Алтай, і Урал, якія памагалі каваць перамогу над ворагам. Пачуццё Радзімы ў вершах паэта абдымае сабою і сінія касачы, пасаджаныя маці, і руіны той хаты, «дзе Янка Купала паэмы тварыў», і Прыпяць, якая ад гора просіць вады «галасамі засмяглых кнігавак».

## 5

Вершы П. Панчанкі вельмі канкрэтныя, і ў той жа час кожны з іх нясе вялікае абагульненне.

Пра духоўны свет савецкага воіна, пра яго чалавечнасць, пра яго вялікае сэрца, адкрытае для ўсяго ўзвышанага і прыгожага, расказвае верш «Вока снайпера». Пра гэты верш выдатны рускі паэт М. Святлоў, з якім П. Панчанка працаваў разам у франтавым друку, пісаў: «Чым менш пачуццё вырываецца напаверх, тым больш яно верые ў табе. У гэтым плане паказальны верш «Вока снайпера», поўны ўнутранай энергіі».

Верш напісаны сапраўды вельмі стрымана. Паэт як быццам дае толькі малюнак:

> У вока снайпера, нібы ў дом
> прасторны,
> Заходзяць дрэвы, хмары, вечар
> зорны,
> І лёгкі цень птушынага крыла
> З разлёту дзеліць вока напалам.

Мы кажам «як быццам», таму што стрыманасць, аб'ектызаванасць гэтых радкоў вельмі добра перадае любасць паэта да свайго героя. Яна, гэтая любасць, відаць па тым, як паэт з вялікім пачуццём пералічвае дэталі навакольнага свету, што адбіваюцца ў воку снайпера.

Аўтар ні слова не гаворыць пра тыя вялікія ідэалы, за якія ваюе снайпер, нічога не кажа, адкуль той чэрпае сілы цэлыя гадзіны ляжаць на марозе, чакаючы, пакуль на мушцы паявіцца ненавісны вораг. Але мы ведаем, што ваюе ён за самае дарагое—каб вярнуць сабе і ўсяму савецкаму народу радасць мірнай працы, радасць дружбы, хараство прыроды:

> Хацеў бы снайпер у маленькай
> зніччы
> Адразу пазбіраць усіх сяброў,
> Муры высокія любімых гарадоў,
> Сады, лугі, азёры і крыніцы.

Малюнкі, што адбіваюцца ў воку снайпера, чаргуюцца так, што мы ведаем мінулае чалавека, бачым, чым ён жыве цяпер і да чаго імкнецца.

У вершы няма ні аднаго слова, ні адной дэталі, якая не была б звязана з яго галоўнай думкай. Паэт вельмі добра карыстаецца кантраснасцю фарбаў.

Вось у полі зроку паявілася цэль. Звычайна П. Панчанка любіць паказваць свет праз багацце фарбаў. Тут ён дае толькі дзве: чорную і белую.

> Ды толькі белы яр
> І снег навокал,
> Ды чорны гад паўзе з кустоў
> у вока.

І толькі калі «вейкі, быццам абцугі» зацiснуць ворага, калі яшчэ адзін акупант знойдзе сабе магілу на нашай зямлі, паэт дасць яшчэ адзін колер: «Сцюдзёныя блакітныя снягі засыпалі двухсотага арыйца».

У час вайны П. Панчанка ў якасці ваеннага карэспандэнта пабываў у Іране. Там ён напісаў вялікі цыкл вершаў пад агульнай назвай «Іранскі дзённік». Як і ўсё, што створана паэтам у гады вайны, гэтыя вершы нясуць на сабе суровыя адзнакі часу.

«Іранскі дзённік»—з'ява выдатная не толькі ў творчасці П. Панчанкі, але і ва ўсёй беларускай і нават саюзнай паэзіі.

«Дзённік» вельмі арганічны для творчасці паэта, багаты на тэмы і вобразы. Паэт здзіўлены і захоплены навізной уражанняў. Ён вядзе чытача то на базар, прапахлы часнаком і лімонамі, то паказвае жахлівыя кантрасты паміж жыццём багатых і бедных, то спрачаецца з тымі паэтамі, якія захапляліся толькі экзотыкай і абмінулі сваёй увагай жыццё народа, поўнае гора і пакут.

Але паэт бачыць не толькі гэта. Ён увесь час думае пра родную зямлю.

Прыгожыя персідскія дываны, але паэту не да іх:

> Будзе яшчэ некалі багатым
> Мой адбудаваны новы дом,
> А цяпер няма ў мяне і хаты,
> Попел не накрыеш дываном.

Радыёхвалі данеслі знаёмы матыў «Перапёлкі», і паэту здалося, што «маленькая птушка сыпнула з крыла на сэрцы нястынучым попелам мінскім». Жураўлі вясною паляцелі з выраю ў родныя краі, і паэт доўга не







Пімен Панчанка і Міхаіл Святлоў.

зводзіў з неба вачэй: «Сустрэне іх хутка мая Беларусь на цёплых зялёных лугах».

Што асабліва трэба адзначыць у іранскіх вершах П. Панчанкі, дык гэта вельмі цэласны светапогляд іх лірычнага героя, яго высокую патрыятычную свядомасць, яго гордасць за сваю краіну і народ. Эпіграфам да іх можна паставіць словы з верша «Я ўсё перабкытаў...»:

> Таму гэтак лёгка хадзіць мне па
> свеце,
> Еўропу і Азію крокамі мераць,
> Што родныя людзі, і сонца, і вецер
> Чакаюць мяне і ў любоў маю
> вераць.

## 9

У вершы «Радзіма» П. Панчанка расказвае, як паступова раскрываліся перад ім гарызонты жыцця, як ён пранікаў усё глыбей і глыбей у сэнс падзей і з'яў. Спачатку басаногага хлапчука, які нават сонца называў пасвойму, «бягомельскім», задавальняў назіральны пункт на вяршаліне бярозы—«краявід на цэлы сельсавет». Потым захацелася даведацца, што робіцца ў далёкіх кутках роднай зямлі, хоць бы краем вока зірнуць за яе рубяжы—пабачыць, як там жывуць людзі, як змагаюцца за свае чалавечыя правы.

Жыццё задаволіла жаданні паэта. Ён аб'ездзіў і абхадзіў многія дарогі нашай краіны, пабываў на далёкіх кантынентах. Бачыў руіны Карфагена і Ніягарскі вадаспад, пабываў ля самага экватара, на афрыканскай зямлі, выступаў у якасці дыпламата ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку, паспытаў малака з какосавых арэхаў, бачыў, як «мінчанін з гвінейцам над чарцяжамі галовы схілілі дружна», піў чай разам з гасціннымі мараканцамі.

Па далёкіх і блізкіх дарогах паэт прайшоў не турыстам, якога цікавіць адна экзотыка, які спакойна назірае чужое жыццё. Некалі ў Іране капітан П. Панчанка, у мінулым палескі беларускі настаўнік, з гордасцю думаў, што яму выпала доля асвятліць хоць

на хвіліну горы чужое краіны «агнём маёй зоркі пякуча-трывожнай». А яшчэ з большым шчасцем ён думаў пра свой зварот дадому:

Далёка ў зялёнай хваёвай старонцы
Ёсць хата свая ў мяне, пушча і поле,
Сваё найсвятлейшае добрае сонца,
Я іх прамяняць не згаджуся ніколі.

Прадаўжаючы гэты матыў, паэт пісаў пазней: «Беларусу і ў Парыжы сняцца белізна бяроз і сонца медзь».

П. Панчанка бязлітасна патрабавальны да сябе. Калі ён піша, што не можа дараваць сабе ніводнага слабага радка, ніводнай прыблізнай рыфмы, дык гэта не пустая фраза. У адным з вершаў паэт знайшоў надзвычай глыбокі вобраз, каб выказаць меру патрабавальнасці да сваёй творчасці. Ён гаворыць, што пісаць трэба так, каб вершы былі патрэбны чытачу, як некалі хлеб па картачцы.

Паэт—душа народа, яго сумленне, яго вочы і вушы. І ў артыкулах, і ў вершах П. Панчанка выказаў нямала цікавых думак пра тое, якім павінен быць паэт. «Без свайго адчування свету, без сваёй вобразнай паэтычнай думкі, без шчырасці і непасрэднасці нельга стварыць паэтычны твор»,— пісаў ён у «Слове да маладых». І далей падкрэсліваў: «Гэта цяжка, для гэтага неабходны талент, веданне жыцця і штодзённая ўпартая праца».

«Лечыцца трава ад спёкі ліўнем, людзі ласкай лечацца людской»,—піша ён у вершы «Чалавечнасць». Чалавечнасць патрэбна кожнаму. Але найперш яна патрэбна паэту, каб гаіць людскія раны, суцішаць боль, прыносіць радасць. Паэт заўсёды павінен памятаць:

Мо бяда каму здушыла горла,
Можа хтось не можа ўжо дыхнуць?
Не забудзь туды раней за гора
Хоць на дзве хвіліны заглянуць.

Цяжка перажываць чужы боль, асабліва калі ты ўспрымаеш яго як свой уласны. Але радасна ведаць, што ад тваёй дабраты на свеце пабольшала шчасця, стала меней гора і слёз. Гэтай думкай прасякнуты хвалюючы верш «Капайце ў сэрцы маім магілу...» Паэт звяртаецца да дзяўчыны: «З цябе насмяяўся няверны мілы? Боль свой на донца кідай». Ён гаворыць да воіна, што пакутуе ад старых ран: «Я закапаю ў сэрца старанна цяжкія твае пакуты».

М. Святлоў пісаў: «Ідэал кожнага верша—стаць цікавым пісьмом да чытача». У сваіх лепшых творах П. Панчанка дасягае гэтага ідэалу. Чытаючы яго вершы, вы адчуваеце, быццам гэта асабіста вам паэт расказвае пра падзеі, пра сваё асэнсаванне іх, пра свае пачуцці. Паэт умее сплавіць у адно публіцыстычнае выказванне з эмацыянальнай дакладнасцю асабістага перажывання. У гэтым відаць плённасць вучобы беларускага паэта на творчасці Уладзіміра Маякоўскага. Трэба падкрэсліць: творчай вучобы, а не пераймання, бо П. Панчанка—паэт самабытны. Ён не падобны ні на кога іншага. Ён разумее, што марная справа ступаць чужым следам, нават калі ён вядзе на Парнас.

## 7

У паэзіі, як у каханні, нельга прытварыцца. Няшчырае пачуццё ніколі не выкліча тых адзіных і непаўторных слоў і вобразаў, якія прымусяць чытача радавацца або сумаваць, любіць або ненавідзець, абурацца або пакутаваць.

П. Панчанка піша толькі пра тое, што ўскалыхнула яго самога, прымусіла мацней біцца сэрца, вывела яго з раўнавагі. Неабыякавасць, пачуццё асабістай зацікаўленасці, імкненне давесці свой погляд, падзяліцца самым патаемным з другім чалавекам—у гэтым і ёсць адзнака сапраўднай паэзіі.

П. Панчанку можа вывесці з раўнавагі, прымусіць узяцца за пяро вельмі многае—і тое, што яго глыбока радуе, хвалюе, захапляе, і тое, што яго абурае або засмучае, пярэчыць яго поглядам на прыгожае ў жыцці. «Я вершы пішу,— прызнаецца паэт,—бо душа ўстрывожана любоўю і болем за кожнага з вас...»

У савецкім чалавеку П. Панчанку асабліва захапляе маральнае хараство. Ён любіць пісаць пра душэўную далікатнасць, чысціню пачуццяў. Усё гэта не прыйшло да героя П. Панчанкі само сабою. Гэтыя рысы выхаваны нашым ладам жыцця, тымі гістарычнымі этапамі, праз якія прайшоў савецкі народ.

У вершы «Адрас друга» П. Панчанка расказвае адну, здавалася б, прыватную гісторыю. І гэта гісторыя выклікае і боль, і гнеў, і пачуццё захаплення душэўнай чысцінёй і высакароднасцю лірычнага героя. «Паміраў у санбаце наш друг дарагі...» Ён раздаў сябрам свае рэчы: «аднаму партсігар, другому муштук, а мне свой адрас і фота». І вось кончылася вайна, вёску франтавога друга вызвалілі ад ворага. Але як выканаць яго апошнюю просьбу? Дзе знайсці сілы, каб прынесці маці вестку пра смерць сына? Лягчэй у баі цэлы месяц прабыць, чым пастукацца ў хату пасівелай ад гора жанчыны.



Я самую доўгую выбраў з дарог,
Ды вунь каміны ўжо дымяцца...
Вайна, вайна...
О, не дай вам бог
Прыйсці замест сына да маці.

У мінулы, дарэвалюцыйны час пераносіць нас верш «Шапка эстонца». І там паэта цікавяць людзі духоўна прыгожыя, людзі, аб'яднаныя пачуццём працоўнага таварыства, для якіх чужое гора—іх гора. Яны гатовы падзяліцца апошнім кавалкам хлеба, аддаць няшчаснаму апошнюю капейку.

Верш гэты П. Панчанка напісаў паводле сямейнага падання. У той год, калі ён нарадзіўся, вельмі цяжка жылося яго маці. Была вайна. Бацька ваяваў на фронце. У рабочым бараку, дзе жыла маці, застаўся апошні кавалачак хлеба. Але бацькавы сябры—эстонскія рабочыя — не пакінулі ў горы жанчыну з маленькім дзіцем. Яны прыйшлі ў барак прывітаць нараджэнне яшчэ аднаго чалавека. І хоць жылося тады працоўнаму чалавеку нялёгка, шчыра пажадалі: «Хай будзе сумленным рабочым». Адыходзячы, яны

...пакінулі шапку ў хаце
Паўнюткую грошай, пацёртых рублёў,
Што ў цэху сабралі для маці...

Як заўсёды ў П. Панчанкі, гэты верш нельга звесці да адной, хай сабе і вельмі важнай, тэмы. Шапка эстонца, у якую мазолістыя рукі склалі працоўныя рублі, вырастае ў сімвал рабочага братэрства, духоўнага хараства людзей, іх чуласці і гатоўнасці памагчы чалавеку ў цяжкую часіну, у сімвал іх інтэрнацыянальнай еднасці.

Першароднай чысцінёй, як вясновы сад у квецені, прасякнуты верш П. Панчанкі «Белыя яблыні». Ён таксама пра хараство. Пра душэўнае хараство жанчыны. Верш пачынаецца святочна-радасным малюнкам вясны, калі «сок прарывае бярэсту», вызваляюцца ад лёду рэкі, калі на «елачных лапах адроставаюць светла-зялёныя пальцы». Затым нагадваецца поўная паэзіі легенда, як вясною з белых яблынь пад свіст салаўёў і варажбу зязюль «нараджаюцца дзяўчаты на нашай зямлі».

Але верш не пра легенду. Яна толькі повад для роздуму, прасякнутага то нейкім вельмі светлым, то элегічным, то горкім настроем, для роздуму пра радасць, трывогі, гора і боль маці. Ім лёс наканаваў непакоіцца за дзяцей, калі яны малыя. Перажываць за іх, калі вырастуць. Ім трэба было араць і касіць, калі беды, няшчасці і войны забіралі назусім альбо на цэлыя гады з дому мужчын.

Нас усіх радуе палёт у космас. Маці касманаўтаў перажываюць гэту радасць пазней за ўсіх, калі іх сыны вяртаюцца на зямлю.

Глядзець усю ноч ім да ранняй зары
У халодныя вочы сусвету
І думаць—ці зорка сягоння згарыць,
Ці з сынам любімым ракета.
Ім першым заўсёды марнець і трывожыцца,
На сотні трывог іх чаканне памножыцца.

Перад намі адзін з тых твораў, чытаючы якія, дабрэеш душой, глыбей пачынаеш разумець жыццё і свет, цаніць хараство і самаахвярнасць.

## 8

Вельмі многа ўкладвае П. Панчанка ў слова «чалавек». Гэтага высокага звання ў яго заслугоўваюць і той снайпер, што гадзінамі ляжаў на белым снезе, цярпліва чакаючы, пакуль паявіцца вораг, каб адправіць яго на той свет. І воін, што кінуўся на скруткі калючага дроту, каб адкрыць дарогу салдатам для атакі. І дзяўчына, што кінула ўтульнасць бацькоўскай хаты, прамяняўшы ўсталяваны побыт на рамантыку асваення цалінных зямель. І палярнікі, што «на хрыбтах начуюць леднікоў»...

І ў пасляваеннай творчасці П. Панчанка часта звяртаецца да вобразаў франтавікоў і партызанаў. У дні найцяжэйшых выпрабаванняў яны паказалі веліч духу, сілу любові да народа і Радзімы, самаахвярнасць і бясстрашша.

У вершах паэта сябры пазнаюць сяброў па шрамах—гэтых «агнявых аўтографах вайны». Вечны агонь на адной з плошчаў Мінска выклікае ў яго жывыя малюнкі тых дзён, што назаўсёды запісаны ў летапіс гераізму народа: «Нібы партызаны расклалі агонь, перавязваюць раны і лічаць патроны». У тым полымі паэту бачацца іскры пажараў, што шугалі над зямлёй у дні вайны, чырвань штандараў, што вялі людзей на подзвіг, гнеўныя вочы ўдоў-партызанак над трунамі паўшых.

П. Панчанка ўслаўляе пераемнасць пакаленняў. Ён хоча, каб кожны савецкі чалавек быў варты гісторыі народа, каб ён звяраў свае пачуцці і думкі з пачуццямі і думкамі лепшых яго сыноў.

Бязлітасна патрабавальны да сябе, лірычны герой П. Панчанкі вельмі непрымірымы, калі хтосьці кідае цень на наша жыццё, парушае яго маральныя нормы, пляміць высокае званне савецкага чалавека карыслівасцю, чэрствасцю або эгаізмам.

З вялікай выкрывальнай сілай гу-

чыць «Расказ аб загінуўшай дружбе»—пра тое, як уласнасць, змрочныя перажыткі мінулага, імкненне да нажывы сталі непраходнай сцяной між двума сябрамі. Іх дружба пачалася з маленства. Яны разам некалі кахалі, абодва былі на вайне. Але адзін з сяброў пайшоў па жыцці не той дарогай, і дружба распалася. Ён убачыў мэту жыцця толькі ў асабістым шчасці: пабудаваў дом на два паверхі, развёў свіней, засадзіў сад і развёў пчол, каб нажывацца і багацець.

Нішто не можа быць апраўданнем герою верша. Ён перастаў быць чалавекам, ператварыўся ў нікчэмнага чалавечка. «Такі і сірат ашукае, забыўшы смак сухіх пайкоў»,—кажа паэт і абвінавачвае героя ў здрадзе сабе самому, свайму сумленню, свайму мінуламу.

Няўжо аб гэткім шчасці марыў,
Калі, паклаўшы на траву,
Табе Радзіма белай марляй
Забінтавала галаву?..

Ад спекулянцкай той зарплаты
Разбагацеў, раззалацеў.
Скажы: ты з радасці заплакаў,
Калі Гагарын узляцеў?

Так, супрацьпаставіўшы маленькаму свету чалавечка з яго мяшчанскім шчасцем вялікі свет нашых спраў, нашых гістарычных перамог, паэт дамагаецца хвалюючага публіцыстычнага гучання верша.

Яшчэ больш складаныя пачуцці абуджае верш «Бацька». Гісторыя, расказаная ў ім, магла б быць тэмай рамана або аповесці пра складанасць жыцця, пра трагічнае і трагікамічнае ў ім. Жыццё жорстка помсціць таму, хто ідзе па ім заблытанымі воўчымі сцежкамі, а не простымі дарогамі, хто ў цяжкія для народа і Радзімы дні думаў толькі пра свае шкурніцкія мэты.

«Жыў чалавек...»—так у апавядальнай манеры пачынаецца верш «Бацька». І адразу за гэтымі словамі ідзе ўдакладненне: «Ды дзе там! Чалавечак. Быў вечна нездаволены усім».

Аднойчы ў гэтага чалавека нарадзіўся сын. Радавацца б яму, а ён усё ныў: «Наследнік ёсць, а спадчыны няма». Здарылася так, што ў час вайны той чалавечак застаўся ў Мінску. Людзі паміралі на фронце, пралівалі кроў у партызанскіх атрадах, змагаліся ў падполлі, гінулі ў душагубках і лагерах смерці, а чалавечак захацеў прыстасавацца да акупантаў. Купляў у іх і перапрадаваў нарабаваныя набыткі. Выступаў па нямецкім радыё: нібыта быў у партызанах, здаўся сам і ў гэтым знайшоў шчасце.

А тым часам набліжалася расплата—ужо чуцён быў грозны гул гармат. Чалавечак хацеў схавацца, але яго злавілі немцы ўначы. «Хоць не зрабіў ніводнай мужнай справы—з людзьмі ён лёг у трасцянецкі роў».

Мінулі гады, вырас сын. Як хацелася б яму, каб бацька яго быў героем! Старая маці таму нікчэмнаму чачавечку «ўсё біяграфію стварае, каб толькі сын быў з верай чалавек».

Услаўляючы чуласць, чалавечнасць і шчырасць між людзьмі, П. Панчанка бязлітасна карае такіх чалавечкаў, якое б аблічча яны ні мелі: здраднікаў Радзімы, кар'ерыстаў, прыстасаванцаў ці халтуршчыкаў.

## 9

У запісной кніжцы Льва Талстога ёсць вельмі глыбокія словы аб тым, каго лічыць сапраўдным паэтам:

«Паэзія» ёсць агонь, што загараецца ў душы чалавека. Агонь гэты пячэ, грэе і асвятляе.

Ёсць людзі, якія адчуваюць гарачыню, другія—цеплыню, трэція бачаць толькі святло, чацвёртыя і святла не бачаць. Большасць жа — натоўп — суддзі паэтаў, не адчуваюць гарачыні і цеплыні, а бачаць толькі святло. І яны ўсе думаюць, што справа паэзіі толькі асвятляць. Людзі, якія так думаюць, самі робяцца пісьменнікамі і ходзяць з ліхтаром, асвятляючы жыццё. (Ім, натуральна, здаецца, што святло найбольш патрэбна там, дзе цёмна і беспарадкава). Другія разумеюць, што справа ў цеплыні, і яны саграваюць штучна тое, што зручна саграваецца (тое і другое робяць часта і сапраўдныя паэты там, дзе агонь не гарыць у іх). Але сапраўдны паэт сам мімаволі і з пакутай гарыць і паліць іншых. І ў гэтым уся справа».

Былі і ў П. Панчанкі вершы, асабліва ў маладосці, у якіх ён асвятляў тэму. Увогуле гэта неблагія творы. У іх ёсць і майстэрства, і добрая культура, і пачуццё. Іх і сёння можна перачытваць. Вось адзін з такіх вершаў—«Падсочка». У прыродзе пануе ідылія і спакой. Пагодлівы летні дзень. «Плыве над верасам хваёвы душны пах... І сонца спелае над галавой навісла... Дыміцца жоўты мох, птушыны спеў замоўк...» Для поўнай гармоніі не хапае аднаго: каб людзі выратавалі сосны, якія захлынаюцца ад смалы. Людзі пачулі «баравых сасонак ціхі плач». Прыйшлі падсочніцы і зрабілі сваю справу. Давайце паглядзім «метадам замаруджанай здымкі», як гэта робіцца і як гэта апісваецца: «...Разцы сталёвыя у рукі ўзялі смела, навостраным лязом надрэзалі умела кару і луб і стрэлкі правілі».



Трэба ўдакладніць: верш не пра тэхналогію падсочкі. П. Панчанка знайшоў для яго паэтычны ход, хоць, праўда, даволі літаратурны. Смала з беларускага лесу «кавалачкам крыштальнай каніфолі да скрыпача у рукі прыплыла».

І можа заўтра малады скрыпач
Мелодыяй узрушыць сэрцаў сотні...
А мне прыпомніцца вясёлы смех
падсочніц
І баравых сасонак ціхі плач.

Верш «Падсочка» напісаны ў 1938 годзе. Сёння П. Панчанка па-іншаму піша пра лес, пра дрэвы, пра прыроду. Ахова яе ад вынішчэння стала адной з найпершых праблем для чалавецтва. Там была паэтызацыя ціхага плачу сасонак. Сёння ў паэта выклікае неспакой, што ўсё менш і менш астаецца вады і неба на душу буслу і чайцы, што два зубры ўцяклі з пушчы, «убачыўшы счарнелы снег», што «ля гарадоў лясы стаяць як бежанцы ці пагарэльцы ў невясёлым дыме».

Паэзія і проза — рэчы розныя. Відаць, падсочку як рабілі, так будуць рабіць і далей. Няхай лесаводы вывучаюць, павялічвае гэта ці скарачае век соснам. Відаць, і сок з бяроз будуць пускаць увесну па-ранейшаму.

Але сёння П. Панчанка не можа пісаць пра ўсё гэта са спакойным сэрцам. З вялікай трагедыйнай сілай гучыць яго маналог «Раўнапраўе дрэў». Гэты верш, надрукаваны ў 1970 годзе, дае ўяўленне, якой драматычнай сілай валодае паэзія П. Панчанкі. У свеце няма месца для індылій, сузірання і ціхага спакою. Кожны чалавек залежыць ад усіх, усе залежаць ад кожнага.

Яшчэ і сёння ёсць паэты, для якіх паэтызацыя прыроды—найтральная тэма. Адносіны з ёю для іх вычэрпваюцца формулай: траўка зелянее, сонейка блішчыць. Іх творы «асвятляюць» і «саграваюць». П. Панчанка піша свае вершы сэрцам. Ён сам гарыць і запальвае іншых. «І ў гэтым уся справа»,—скажам мы словамі Л. Талстога.

На прыкладзе верша «Раўнапраўе дрэў» гэта відаць асабліва добра. У ім П. Панчанка спрачаецца, вядзе бой, горача даводзіць, гневаецца і непакоіцца. Ён змагаецца за раўнапраўе дрэў. Ён адкідае, як паклёп, літаратурныя схемы, паводле якіх тонкая рабіна павінна падпарадкавацца дубу (паэт гаворыць: «самаўпэўненаму дубу»), паводле якіх асіна асуджана быць за вісельню. Паэт піша пра асіну, як пра жывую істоту: «Асіна, мая асінка! Я больш не дазволю нікому ўдавіцца на тваім суку—няхай разбіваецца на раўнадушнай машыне. А тваё лісце ласкавае з ціхім журчаннем будзе пералівацца ў горлы птушак...» Трагічна гучаць «анатамічныя» тэрміны, пры дапамозе якіх паэт расказвае пра пакуты белай бярозы: «Вы даўно ёй здрадзілі, нож у белыя грудзі ўсадзілі, каб толькі напіцца яе свежай крыві. І гэтага вам было мала. Вы перарэзалі ёй сухажылле, кінулі ў прагнаю печ, каб яе апошнім гарачым дыханнем пагрэць свой стары раматус...»

«Роздум пра чалавека, жыццё, час—сутнасць паэзіі»,—пісаў у сваім нядаўнім артыкуле П. Панчанка. Гэта правільна ўвогуле да паэзіі, але прыблізна ў дачыненні да творчасці самога П. Панчанкі. Вось чаму ён палічыў патрэбным удакладніць думку: «Але агаворваюся—роздум не пасіўна-сузіральны, а гарачы і актыўны, са спачуваннем і надзеяй у сэрцы».

П. Панчанка ніколі не баіцца прыйсці да чытача на споведзь з думкамі, перажытымі, перадуманымі, выпакутаванымі на адзіноце. Яго новыя вершы «Неспакой», «Прысніўся сон...», «...І мяне хвароба тузанула»—узор твораў, пра якія добра сказаў рускі паэт М. Луконін: «Безумная затея нами движет: чтоб каждую строку прожить собой и самому еще при этом выжить...»

## 10

П. Панчанка ўмее выказаць самыя розныя чалавечныя пачуцці. Выказаць так, каб слова яго запомнілася надоўга, каб вобразы данеслі да чытача думку ва ўсёй яе глыбіні і непаўторнасці.

Голас паэта гучыць урачыста, калі ён славіць Радзіму, расказвае пра гераізм ваенных гадоў, пра велічныя справы і багаты духоўны свет свайго сучасніка. Голас паэта бывае лірычна пранікнёны, калі ён спявае пра каханне, малюе прыроду або ўслаўляе маральнае хараство чалавека. Ён шчодра карыстаецца сродкамі смеху—то лірычна-спагадлівага, калі радуецца таму, што люба і дорага сэрцу, то саркастычна-бязлітаснага, калі гневаецца, ненавідзіць і выкрывае.

Дзе ж чэрпае паэт сродкі для сваёй паэзіі, такой разнастайнай на тэмы, настроі, вобразы і перажыванні? Можна адказаць коратка: у мове народа. Але такі адказ будзе прыблізны, бо не растлумачвае, у чым адметнасць і самабытнасць паэзіі П. Панчанкі.

Творчасць паэта пачынаецца ад паўнаты ўспрыняцця навакольнага свету, ад усведамлення сябе часцінай народа, спадчыннікам яго духоўных здабыткаў, ад жадання сказаць свае слова ў літаратуры. І яшчэ—ад любові і захаплення мовай, яе багаццямі

і хараством. У мове—усе фарбы і колеры жыцця, усе сродкі для ўвасаблення пачуццяў, для стварэння мастацкіх вобразаў.

П. Панчанка піша, што мова для яго «як раса, як сляза, як зара». Яна ўвабрала ўсё, што дорага кожнаму чалавеку, што спадарожнічае яму праз усё жыццё. Мова для паэта—

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальных палескіх крыніц,
Сінь чабору і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

У радасці і ў горы, у дні вялікіх урачыстасцяў і ў дні цяжкіх выпрабаванняў для народа паэт шукае словы, каб выказаць сваю радасць або боль, захапленне або гнеў, шчасце або гора. Пра гэта П. Панчанка таксама сказаў вельмі хвалююча:

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю—
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

Самыя свежыя і непаўторныя фарбы знайшоў паэт у мове для таго, каб намаляваць велічны вобраз Радзімы. Яна ў яго вершах то нахіляецца над партай школьніка клапатлівай настаўніцай, каб навучыць цяжкому рамяству тварыць і жыць. То бінтуе белай марляй галаву параненаму воіну. З усіх дарог, якія вадзілі паэта па свеце, яму мілей за ўсё была тая, якая вяртала дадому,—туды, дзе з малых гадоў «зоркі пахнуць сенам», дзе «перашытыя кашулі з бацькавых плячэй насіў малым», дзе на росную зялёную айчыну, паўнюткую святла, «пазіраюць круглымі вачыма птушаняты з цёплага гнязда».

Слова ў вершах П. Панчанкі нясе ў сабе ўсю паўнату аўтарскага перажывання. Здавалася б, які просценькі эпітэт «круглыя» ў дачыненні да вачэй птушанят. Але ў гэтай прастаце, у немагчымасці яго замяніць ніякім іншым словам і ёсць вялікае майстэрства.

П. Панчанка імкнецца знаходзіць вобразы, да краёў напоўненыя паэзіяй. Вы прачыталі, як лірычны герой пастукаў у акенца дзяўчыны «зязюльчыным ранкам, пасля салаўінага вечара і перапёлчынай ночы». Вы не ведаеце яшчэ, якія пачуцці звязваюць людзей, але толькі па гэтых чароўных «птушыных» эпітэтах адчулі, якая пяшчота, любоў, замілаванне, душэўная шчодрасць і хараство перапаўняюць сэрца закаханага.

А як паэтычна, пры дапамозе «ягадных» эпітэтаў расказаў паэт пра родны край: «Там чарнічныя ўсе ночы, сунічныя ранкі, там народ найболей любіць песні Янкі».

Можна многа было б гаварыць, як умее паэт праз эпітэт перадаць рэалізм з'явы або падзеі, матэрыяльнасць навакольнага свету. Чытаючы яго вершы, вы адчуваеце «гаркавы смак жывіцы на губах», бачыце, як ціха ападаюць на зямлю «родныя зялёныя дажджы»...

Можна па-рознаму перадаць такую сусветнага значэння падзею, як заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны. П. Панчанка не шкадуе пафасных слоў, марачы пра той дзень, калі заціхне апошні залп. Яго верш гучыць як просьба да прыроды быць чулай і шчодрай да тых, хто столькі перажыў і выцерпеў. Вяртаюцца салдаты і салдаткі. Вяртаюцца жанкі—да мужчынаў, мужчыны—да жанок. І паэт моліць і просіць:

Дажджы прамяністыя, з хмар ападайце!
Жыты прарастайце!
Сады зацвітайце!

Нібы словамі замовы, ён загадвае, каб вярталіся:

У сажалкі—рыбы,
Сярпы—на палетак,
Музыкі—да скрыпак,
А пчолы—да кветак!

І тую ж падзею ў другім вершы П. Панчанка перадае праз лірычную дэталь: «Першы раз на маім мінамёце мірна свецяцца тры дажджынкі».

Паэт шырока карыстаецца мовай публіцыстыкі. «Не люблю сухаватага слова «вынікі»,—прызнаецца П. Панчанка і пільна сочыць, каб у яго вершы не праніклі штампы, словы сцёртыя і бясколерныя. І ў той жа час мы чытаем у яго: «Першы раз салаўі спяваюць даваеннымі галасамі». Дзякуючы паўнаце пачуццяў паэта, празаічнае слова «даваеннымі» загучала свежа і хвалююча.

Наогул П. Панчанка вельмі добра ўмее пераасэнсоўваць словы, паварочваць іх новым бокам, здабываць новы сэнс.

Што можа нагадваць нам слова «першакрыніца»? Вучоны трактат, дысертацыю або сумнаваты артыкул. Здавалася б, што ў гэтым слове паэтычнага? А паглядзіце, што з ім зрабіў П. Панчанка? Натхнёна расказаўшы пра нашу энцыклапедыю, у якой знайшлося месца гісторыі народа, яго героям, гарадам, рэкам, паэт канчае верш словамі:

А калі там што-небудзь прапушчана:
Мала песень, азёр, навальніц—
Прыязджайце да нашых пушчаў
І напіцеся з першакрыніц.

У газетны зварот пра раўнапраўе жанчын паэт уклаў вялікі хвалюючы сэнс пра гераізм франтавых гераінь: «Пацвердзілі зноў найвялікшае вы раўнапраўе ў брацкіх магілах між самых адважных сыноў». Слова з «рэактыўнай» тэрміналогіі «многаступеньчатыя» ў спалучэнні «многаступеньчатыя дурні» загучала саркастычна. Другое такое слова «паўправаднікі»—з галіны электронікі—у вуснах лірычнага героя, які хацеў бы быць паўправаднікам у прыгожай дзяўчыны, праваднікá вагона, стала паэтычным і мімаволі выклікае ў нас цёплую ўсмешку.

Паэт умее абнавіць літаратурную цытату, укласці ў яе нешта сваё. «Айчыны дым, і мне ты быў салодкі»,—гэта гучыць асабіста ў вуснах паэта, які ў цяжкія дні вайны быў за межамі радзімы. Але які першародны сэнс набыў гэты афарызм, калі паэт дадаў: «...Высокі дым з вясковых камінoў».

Асобна трэба сказаць пра метафару ў П. Панчанкі. Яна ў яго вершах вельмі багатая на пачуцці і перажыванні, вельмі змястоўная, напоўненая вялікім сэнсам.

Пра злачынствы фашыстаў, пра спусташэнні, якія яны пакінулі на савецкай зямлі, нам вельмі многа гаворыць адзін толькі вобраз: «пагналі на захад дубровы, пагналі на захад лясы, павезлі у цёмных вагонах дзявочыя галасы».

Метафара памагае непарыўна знітаваць думку і вобраз. Хата, якая «закрыла вочы дашчанымі пальцамі», каб не бачыць гора гаспадароў, «палаючыя гарады, нанізаныя на паясы дарог», «бязногія грузавікі» на абочынах—з якой сілай паказалі гэтыя вобразы гора і пакуты людзей у дні вайны! А які трагічны сэнс уклаў паэт у метафару пра тое, як савецкіх воінаў у вызваленым сяле сустрэла адна ўсяго маладзіца—«змярцвелай рукой прывітала з высокай сухой шыбеніцы».

У залежнасці ад тэмы верша метафары маюць то лірычную афарбоўку (напрыклад, дзявочыя сэрцы, што б'юцца ў пісьмах да франтавікоў), то сатырычную (напрыклад, у радках пра вучонага, каторы колькі гадоў без толку сцябае «пугаю цытатаў па вадзе»).

П. Панчанка надае вялікую ўвагу гукавой арганізацыі вершаў. Ён ніколі не задавальняецца прыблізнай рыфмай, а шукае самыя гучныя, звонкія і першародныя. Рытмы яго твораў напоўнены рытмамі самога жыцця.

Дзякуючы глыбокаму сэнсу і сцісласці выказвання многія яго радкі гучаць як афарызмы: «Мы бачылі нелюдзей,—дзе яны, нелюдзі? А наша Радзіма далей і далей ідзе»; «Без чалавечнасці не будзе вечнасці»; «Усё мілагучна для слыху майго—і звонкае «дзе» і густое «чаго»; «Хвала і слава могуць разлучыць, а гора і бяда заўсёды зблізяць».

«Не люблю я змрочных фарбаў, не люблю я шэрых тонаў»—вось правіла, якое П. Панчанка сфармуляваў для сябе і якога ён няўхільна трымаецца.

**Рыгор ШКРАБА.**






**Анатоль КУДРАВЕЦ. РАДАНІЦА.**
**Аповесць і апавяданні.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972.**

# ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

Вопыт развіцця сучаснай літаратуры, у прыватнасці, маладой, сведчыць, што найчасцей яна дабіваецца поспеху тады, калі творча засвойвае і развівае лепшыя мастацкія традыцыі мінулага, улічвае сацыяльна-гістарычны і духоўны вопыт народа. Яскравы прыклад гэтага—кніга Анатоля Кудраўца «Раданіца».

У А. Кудраўца блізкасць да народнага светаўспрымання выяўляецца вельмі арганічна і натуральна ва ўсім—у мове, у тым, як пісьменнік разумее і паказвае жыццё, як глядзіць на чалавека, у чым бачыць яго прызванне. Яго герой належыць да тых людзей, што нясуць у сваім сэрцы і памяць аб мінулым, і роздум пра тое, як яны жывуць цяпер, куды ідзе ўсё наша жыццё. Праз успаміны Івана Купцова і яго блізкіх, праз іх размовы, гутаркі і раскрываецца ў аповесці жыццё беларускай вёскі, жыццё людзей з іх горам і радасцямі, весялосцю і смуткам, з незваротнымі стратамі, развітаннямі і сустрэчамі, з усім тым, што спадарожнічае чалавеку ад нараджэння да скону.

Перададзены ўспаміны герояў хвалююча, пранікнёна. Пісьменнік ідзе тут, па ўсім відаць, ад убачанага, асабіста перажытага. Адсюль псіхалагічная пераканаўчасць і дакладнасць у абмалёўцы характараў людзей, у паказе іх штодзённых узаемадачыненняў. Асабліва ўзрушваюць старонкі, прысвечаныя дзяцінству і юнацтву Івана Купцова. Удаліся аўтару апісанні зімовых вечароў у хаце ўдаўца Пётры, у прыватнасці, сутычка Івана з Міцем.

У аповесці ёсць нямала мясцін, якія кранаюць да глыбіні душы і здзіўляюць здольнасцю аўтара разумець таямніцы чалавечага сэрца. Вось сцэна спаткання Івана з Верай, якую ён не бачыў з таго часу, калі пайшоў у армію. Іван, відаць, і не здагадваўся, кім ён быў для дзяўчыны ўсе гэтыя доўгія гады. Асабліва цяжка Веры было напачатку: «Дык я як выйду на двор, як зірну на твае сляды і ў слёзы. Здаецца, сэрца разарвецца. Прашу Клаўдзю: «Закапай ты тыя сляды, ці заарай, ці засып, а то я не вытрымаю, памру»... А яна смяецца: «Дурніца, кажа, во снег пойдзе і сам засыпле ўсё, зараўняе і не пазнаеш, ці было дзе што...»

Альбо вось яшчэ адно месца з аповесці, дзе апавядаецца пра смерць Лявона. У адзін з веснавых дзён, незадоўга да трагічнай падзеі, нібы прадчуваючы непазбежнае, убачыў Лявон, як зырка, чырвона гарэла на небе сонца. Ніколі не думалася, што сонца можа быць такім барвовым. А ў апошнія перадсмяротныя імгненні ўзнікла ў Лявона вострае шкадаванне, што «не паспеў выразаць сыну лук, і цяпер яму здалося, што гэта была тая работа, якую павінен быў зрабіць, якую не зрабіў і зрабіць якую ўжо не зможа».

Падзеі, пададзеныя ў аповесці як успаміны, чаргуюцца з малюнкамі таго, што герой бачыць на ўласныя вочы. І якое ж не падобнае яно, вясковае жыццё ў паказе Кудраўца, да тых спрошчаных, прымітыўных схем, што ўсё яшчэ трапляюць на старонкі кніг пра сучасную вёску! Колькі праўды, глыбокага ўнутранага драматызму ў расказе пра лёс Надзі, Клаўдзі, Веры, Міці альбо Мікулічышынага Федзі. Як па-рознаму складваецца ў кожнага з іх жыццё, якія не падобныя яны адзін на аднаго і як многа ў іх агульнага.

Раскрываючы характары герояў, Кудравец не спяшаецца выносіць прысуд, нават калі хто-небудзь з іх у чымсьці і вінаваты. Ён давярае жыццю, паважае і любіць чалавека і таму заўсёды спрабуе адшукаць у ім лепшае, вытлумачыць яго характар не





прыроднай сапсаванасцю, а канкрэтнымі жыццёвымі абставінамі. І гэта не ўсёдараванне, не праява грамадскай пасіўнасці, а гуманістычны погляд, імкненне ісці ад жыцця.

Моцны бок пазіцыі Кудраўца не толькі ў тым, што ён не спрашчае супярэчнасцяў, не глянцуе, не падфарбоўвае жыццё сучаснай вёскі. Ён імкнецца выявіць сцвярджальныя асновы жыцця, тое станоўчае, што ўласціва людзям. Носьбітамі гэтых якасцяў у аповесці выступаюць тыя, хто ў часы суровых выпрабаванняў не хаваўся за чужую спіну, а біў ворага, хто на сваіх плячах вынес цяжкасці пасляваеннага жыцця, хто жыў і жыве па законах праўды і чалавечнасці. Да такіх належаць многія жыхары Буднева, перш за ўсё Лявон і Лёкса Купцовы. Вобразы Лявона і Лёксы—бясспрэчная ўдача пісьменніка. Яны пададзены буйным планам, характары іх атрымаліся выразныя, па-мастацку пераканаўчыя. Менавіта пры абмалёўцы Лявона і Лёксы найбольш яскрава выявіўся народны лад думкі, уласцівы аўтару аповесці,—здольнасць, якая даецца не кожнаму і якая да многага абавязвае.

Ва ўзаемаадносінах з людзьмі Лявон прытрымліваецца таго погляду, што галоўнае ў чалавеку і ў жыцці—праца, праца на карысць грамадства. Абгрунтоўваючы сваю пазіцыю, Лявон выступае як сапраўдны філосаф. І філасофія яго—не саматужная. У ёй многа мудрасці і глыбокай праўды. Лявону «хацелася жыць і тады, калі ўсе будуць ведаць, што яго няма. Ён быў жадны на жыццё. Ён гаварыў: «Трэба спяшацца жыць, а не—дык і нашто жыць». Ён ведаў: раз прыйдуць на яго магілу, то ўспомняць яго. А раз успомняць—значыць, ён жыве». Як бачым, паводле Лявонавых уяўленняў, жыць—значыць застацца ў памяці людзей, пакінуць у жыцці след, пакінуць пасля сябе тых, хто прадоўжыць тваю справу. Так думае і Лёкса. «Дык што я хацела табе сказаць, сынок. Ага. Калі і я памру, дык ты ўсё роўна прыязджай. Хаця на раданіцу».

Для маці, як і для бацькі, сын—гэта той, хто будзе працягваць справу іх жыцця, хто будзе помніць іх, успамінаць. «А раз успомніць—значыць ён жыве. Так думаў Іван, слухаючы і не слухаючы ўсё, што гаварылася ўкруг яго. Былі тут яго думкі, якія ён выдаваў за бацькавы, былі бацькавы, якія ён лічыў сваімі».

Вопыт народнага жыцця, у тым ліку і вопыт спадчынны, сямейны, як найболей блізкі, нясе Іван Купцоў у сваім сэрцы, спаўняючы бацькоўскі запавет. І каб не парваліся ніці, якія звязваюць яго з народным жыццём, з мінулым, наведвае Іван раз-пораз родную вёску, бацькоўскае селішча.

Іван прабыў у Будневе, пад страхой роднай хаты, усяго толькі дзень. Як гэта мала! І разам з тым як многа можа даць адзін дзень, калі чалавек жыве напружаным унутраным жыццём, калі ён умее глядзець праўдзе ў вочы і адчувае ўнутраную блізкасць да людзей, сярод якіх ён нарадзіўся і вырас. «Ён быў тут свой і ведаў, што навечна прывязаны да гэтых людзей, да ўсяго, што хвалюе і непакоіць іх... Гэта была яго зямля, было яго жыццё, гэта быў ён сам».

Нельга, вядома, думаць, што ў светаадчуванні Івана мала індывідуальнага, свайго. Яго асабісты духоўны вопыт, вопыт чалавека, які жыве ў іншым асяроддзі, не раствараецца цалкам у вясковай стыхіі. Але тут важна, што Іван не адкідае традыцыйнага, а шукае ў ім жыццёвае, перспектыўнае.

Калі Іван ехаў дадому, ён быў вясёлы і шчаслівы. Радаваўся свайму здароўю, сіле, хуткаму спатканню з маці. Але калі сутыкнуўся з вясковай штодзённасцю, з рэальным жыццём, якое здалёк здавалася прыгожым, адчуў, што яму нечага не хапае, нечага бракуе. Вядома, асабіста Іван не вінаваты, што не шанцуе ў жыцці Надзі ці той жа Ноне, што так жорстка абыходзіцца са сваёй жонкай і з роднай маці баламут Федзя, але як чалавек сумленны, ён не можа не спачуваць гору блізкіх і далёкіх яму людзей. Вось у гэтай здольнасці разумець чалавечае сэрца, пакуты, боль—сіла і прывабнасць Івана Купцова. Іван наведвае вёску не дзеля таго, каб уцячы ад тлуму гарадскога жыцця. Ён прыязджае, каб яшчэ раз спаткацца са сваім мінулым, паглядзець на сябе, ужо сталага, з далечыні незабыўных гадоў, узважыць, ацаніць сваё цяперашняе. Ён не хоча несапраўднага шчасця. І можа па гэтай прычыне так доўга не сустракаў тую, якая б стала блізкай, адзінай на ўсё жыццё. Спатканне з Верай рашуча мяняе яго лёс, кладзе мяжу паміж учарашнім і будучым. Няхай абгаворваюць суседзі і са здзіўленнем разводзяць рукамі сябры, і не вельмі добра, што крыўдуе маці, бо сын упадабаў «развядзёнку», але для Івана Вера стала тым адзіным і сапраўдным, як адзінымі і сапраўднымі былі скупое на радасці дзяцінства і галоднае, нялёгкае юнацтва, як адзіным бывае ў чалавека родны кут, дзе жывуць блізкія, бацькі і дзе пахаваны бацькі яго бацькоў.

Хацелася б сказаць пра высокую патрабавальнасць А. Кудраўца да сябе як пісьменніка. Гэта бачна, калі параўноўваеш часопісны варыянт з асобным выданнем аповесці. Унесеныя

папраўкі значна ўзбагацілі твор, удакладнілі аўтарскую канцэпцыю. Больш акрэсленымі сталі характары герояў, больш матываванымі іх учынкі. Праўда, дзе-нідзе пракідаюцца лішнія штрыхі: часам пісьменнік гаворыць пра тое, да чаго чытач павінен дайсці самастойна, без аўтарскай дапамогі.

Уключаныя ў кнігу апавяданні «Елачка» і «Холад на пачатку вясны» напісаны на такім жа высокім мастацкім узроўні, што і аповесць. Тут мы бачым знаёмую яшчэ па першай кніжцы Кудраўца цікавасць да чалавека нялёгкага жыццёвага лёсу, цікавасць да яго ўнутранага жыцця. І тэматычна новыя апавяданні шмат у чым прадаўжаюць ранейшыя творы. У іх размова ідзе пра адказнасць чалавека за зробленае ім, пра цяжкае ваеннае дзяцінства. Але ёсць і новае, што сведчыць пра творчы рост пісьменніка. У гэтым сэнсе звяртае на сябе ўвагу тое, што абодва апавяданні ў чымсьці набліжаюцца да аповесці. Гаворка ідзе не толькі пра ахоп матэрыялу, але і пра тое, што больш паглыблены стаў погляд пісьменніка на свет, на чалавека. Ён ужо не задавальняецца адным аспектам чалавечага характару або пэўнай сацыяльнай, бытавой з'явы. Яго цікавіць уся сукупнасць праяў духоўнага, грамадскага жыцця чалавека, цікавіць чалавек у складаных, апасродкаваных сувязях з сучаснасцю і з мінулым, цікавіць чалавечая асоба ў працэсе пошукаў, у станаўленні. Герой Кудраўца шукае самога сябе, свайго месца ў жыцці, шукае сэнсу жыцця і прызначэння чалавека. Можа, ён часта памыляецца, але ўрэшце знаходзіць свой шлях—шлях сумленнага служэння людзям, свайму народу.

**Міхась МУШЫНСКІ.**



**Мар'ян ДУКСА. КРОКІ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972.**

# ПРОЗА ЖЫЦЦЯ І ПАЭЗІЯ

Першая кніга вершаў Мар'яна Дуксы «Спатканне», выдадзеная ў 1967 годзе, асабіста на мяне зрабіла ў цэлым прыемнае ўражанне.

Ну, вядома, было ў ёй усё, што звычайна бывае характэрна для першых кніг: у нейкай меры выпадковы выбар сюжэтаў для вершаў, нявопытнасць у валоданні словам, невыразнасць думкі. Многія вершы М. Дукса пачынаў словам «люблю»: «Люблю вас, пасёлкі-мястэчкі», «Люблю жыццё я пад Шляхамі Млечнымі» (чамусьці ў множным ліку). На адной і той жа старонцы ў двух розных вершах можна было сустрэць адну і тую ж рыфму «варанога—дарога» і г. д. Аднак агульнае ўражанне ад кнігі вызначалася не гэтым.

Многае гаварыла за тое, што малады аўтар думае сур'ёзна і рэальна. Увайшоўшы ў свет слоў, якія выказваюцца публічна, ён палічыў патрэбным выказаць сваю заклапочанасць тым, што мноства гэтых слоў абясцэнена, сцёрта, што першапачатковы сэнс многіх з іх страчаны. Пра небяспеку ўжывання такіх слоў М. Дукса сказаў проста і на дзіва «дарасла»:

Баюся слоў, паношаных, як боты,
Баюся слоў узвышаных. Яны
Былі не раз фальшывай пазалотай
Бесчалавечнай здрады і маны.
(«Маўчанне».)

Як і многія яго равеснікі ў паэзіі, М. Дукса расчульваўся, калі ў поле яго зроку трапляла вёска, калі ён успамінаў дзяцінства. Але гэта не перашкаджала яму адчуваць складанасць жыцця, знаходзіць праблемы значныя і сур'ёзныя для патомных хлебаробаў:

...Бацькі на развітанне
З дакорам скажуць:
— Эх, сыны, сыны!..
Бацькам на памяць застаецца
роздум.
Як часта,
Закурыўшы на раллі,
Успомняць:
— Астываюць нашы гнёзды,
Бо дзеці уцякаюць ад зямлі...
(«Бязвусае юнацтва...»)

Была яшчэ ў тым першым зборніку рэальнасць пачуцця і, што асабліва важна, уменне праз сістэму вобразаў паказаць гэтае пачуццё пластычна. У вершы «Лазовыя шкаплеры» светлая і журботная памяць пра бацьку проста такі адчувальна жыве ў тых прадметах, якія назаўсёды захавалі для сына цеплыню бацькавых рук:

А гэты кошык... Я яго пад дзверы
Не кідаю—прыношу у пакой.
*Апошнія лазовыя шкаплеры,*
Заплеценыя бацькавай рукой!..
. . . . . . . . . . . . . . . .
І кожны год, прыехаўшы дахаты,
Я уплятаю новыя дубцы.
Яны штогод дзяруцца, як папера,
Ламаюцца — не ведаю чаму.
А вось шкаплеры, бацькавы
шкаплеры,
Перажылі дзесятую зіму.

Вось што было каштоўным у першай кнізе дваццацічатырохгадовага паэта.

З другой кнігай М. Дукса не спяшаўся — яна выйшла толькі ў гэтым годзе. Пяць гадоў — тэрмін дастатковы для таго, каб пасталець маральна і паэтычна. Як жа распарадзіўся М. Дукса гэтым пяцігоддзем? Што новага адкрыў ён у жыцці — для сябе і для іншых?

Адкрыты і сталі для яго арганічнымі новыя тэмы, новыя душэўныя схільнасці. «Сваёй» стала тэма прыроды. Тонкае адчуванне яе прадыктавала паэту лепшыя ў кнізе вершы — «Навальніца», «Косяць атаву...», «Прадвесне», «Вілія» (дзе прадэманстравана, дарэчы, добрае валоданне словам) і іншыя.

Стаў больш упэўнены почырк — радок пачаў звінець; болей меладычны, насычаны музыкай стаў пругкі ямб, якому М. Дукса яўна аддае *перавагу*; слова начало пахнуць, стала каляровым. Стог, які перавозяць у вёску,

Звініць залівіста палоззем,
Рыпіць натужліва дугой,
Прапахлы да касцей марозам,
Азонным небам і смугой.
Туманна-белымі бакамі
Снег падмятае і грабе,
Увесь абнюханы ваўкамі —
Аж конь спалохана храпе.
(«Стог».)

Такое першае ўражанне. Але пачынаеш учытвацца, удумвацца ў вершы — і нешта пярэчыць гэтаму ўражанню. Далей — болей, *пакуль*, нарэшце, не з'яўляецца патрэба ўважліва прааналізаваць паэтыку: пярэчанні пачынаюцца з яе.

Спачатку некалькі здзіўляе вольнае абыходжанне з націскам. На фоне вельмі дакладнага, гранічнага метра асабліва прыкметныя вось гэтыя: «Ад тва́ёй брамы верасня́ўскі жораў», «Каб ва́кол іх — жыты і вербалоз», «Ад школьніцы — у ця́бе вочы», «у тва́ё сэрца ў вячэрні час» (націск пастаўлены там, дзе ён узнікае пры чытанні ўголас). Што гэта? Калі няўменне, то яго не было ўжо ў першым зборніку. Калі неахайнасць—ранавата, таму што *другая кніга—адказны момант* у жыцці паэта: адну кнігу можа напісаць амаль кожны, і толькі другая з'яўляецца сапраўдным экзаменам для паэта.

Але калі гэты недахоп ліквідаваць лёгка, то другі больш істотны. Верш— напеўны, меладычны, рытмічна выразны — чытаецца лёгка, бадай, нават занадта лёгка, ён нібы не напісаны, а прасняваны, і мы, следам за аўтарам, таксама адчуваем патрэбу яго праспяваць. Але толькі ў птушыным спеве галоўнае— мелодыя, мелодыю ж верша нараджаюць словы, якім уласцівы сэнс,— і ў гэтым уся справа. Калі мы, прыпыніўшы чытанне верша, імкнемся ўнікнуць у сэнс слоў і фраз, выяўляецца дзіўная рэч: вельмі часта яго нельга зусім адшукаць, гэтага самага сэнсу.

Вось для прыкладу страфа з верша «Ода»:

Звіняць, што струны у цішы,
Тваіх парыўных летуценняў
Жывыя промні — светацені,
Якія падаюць з душы.

Хто можа пахваліцца, што чуў, як звіняць мары ў душы другога чалавека? Чаму мары спачатку параўноўваюцца са струнамі, а потым з промнямі? Параўнанне струн з промнямі — старажытнейшае з параўнанняў — цалкам дапушчальнае. Прыроўніванне ж струн і промняў да мараў прыводзіць да таго, што мары знікаюць, раствараюцца ў адным і другім вобразе. Далей: чаму промні — гэта адначасова і светацені? Прамень ёсць прамень, а цень — ужо не прамень. Нарэшце, чаму ўсё гэта — і мары, і струны, і промні, і светацені — падаюць з душы? Ці можна якім-небудзь чынам уявіць сабе гэты «струнна-промне-света-летуценны» вадаспад?

А верш чытаецца гладка — заўважылі?

«...ступаюць асцярожна ногі на па-

мяць гулкую — на мост»,— піша М. Дукса. Як можна наступіць нагамі на памяць? Ды яшчэ на памяць гулкую? Маецца на ўвазе мост? Тады трэба сказаць: ногі ступаюць на мост, а ужо пасля дадаць, што маецца на ўвазе нешта памятнае. І прытым: чаму ногі ступаюць «асцярожна», а мост пры гэтым «гудзіць»?

У Мар'яна Дуксы знойдзеш: «цень пагарэльца», «духмяных зорак карусель» і г. д. У першай кнізе нічога падобнага не было.

У чым тут прычына?

М. Дукса ўвесь аддаўся клопату адшліфаваць, «абкатаць» верш так, каб не было ў ім, як кажуць, ні сучка, ні задзірынкі. Само па сабе гэтае імкненне варта ўсялякага заахвочвання, але ва ўсякім рамястве ёсць адпаведная паслядоўнасць, парушаць якую нельга. Перш чым лакіраваць стальніцу, чырванадрэўшчык вельмі доўга і разнастайнымі інструментамі апрацоўвае яе, каб знікла шурпатасць дрэва, таму што колькі б ні паклаў ён лаку на сучок, той усё роўна будзе тырчаць. Іменна гэтак паступае пакуль што і М. Дукса: ён не шліфуе, а як бы залізвае верш, і я, чытач, так верш і ўспрымаю: бачу, што ён не адшліфаваны ў змесце, у лагічных суадносінах слова са словам і фразы з фразай, а проста залізаны, мілагучны без «мілагучнасці» думкі, ідэі, сэнсу, дзеля якіх існуе паэзія.

Ды гэта толькі вынік. Прычына — значна глыбей.

Пры чытанні вершаў, сабраных у кнізе «Крокі», узнікае адчуванне бегу на месцы—бяжыш хутка, задыхаешся і — ні з месца. Так трэніруецца веласіпедыст у зімовай зале: шалёна круціць педалі — і ні міліметра ўперад, таму што колы пазбаўлены счаплення з зямлёй.

Тое ж адбываецца і ў вершах М. Дуксы: у іх няма адчування «глебы», рэальнасці, рэчаіснасці — менавіта таго, што ёсць і што пакрывала ўсе недахопы кнігі «Спатканне». Пад шумок прыгожых рыфм, пад звон алітэрацый, пад гучны бубен рытму з вершаў знікла рэальнае жыццё. Ды і дзе яму быць, поўнаму сэнсу жыццю, у бяссэнсавых, алагічных пабудовах? У «Спатканні» М. Дукса так ці інакш, дрэнна ці добра, але ўсё-такі ўзнімаў рэальныя праблемы, жыў імі. Цяпер гэтага няма. Не палічыш жа праблемай тое, што бярозы не могуць удзельнічаць у снегазатрыманні: «Бо службу снегазатрымання, ах не выконваеце вы!» (цудоўнае гэта «ах» — зусім беспаможнае нацягванне радка на рытмічную калодку). Не назавеш праблемай і тое, што шафёрам, якія возяць старшынь калгасаў, даводзіцца доўга чакаць сваіх гаспадароў, у той час як самазвалы-рабацягі праносяцца міма з карысным грузам («Чаканне робіцца аскомай»). Такія «праблемы» рашаюцца проста: падаў заяву — і перасаджвайся з «газіка» на «МАЗ»!

Мне здаецца, М. Дукса сам адчувае гэты свой недахоп, таму што ён—паэт. Інтуітыўна ён хапаецца за рэальныя прыкметы жыцця, але яны паўстаюць перад намі як фактаграфічнае апісальніцтва, простае пералічэнне прыкмет побыту ці як пошукі глыбокага сэнсу там, дзе яго, па сутнасці, няма. Вось верш:

Бульдозер па дварышчы
крочыць —
Не здабраваць сцяне цяпер.
Аж лезе чорны пыл у вочы...
«Сем раз адмер.
Сем раз правер».
Дзяды так многа вымяралі...
. . . . . . . . . . . .
І мне, няўдзячнаму унуку,
Так шмат даводзіцца крышыць,
Сваёй уласнаю рукою
Перастаўляць, перабіраць
І сёння тое, што старое,
У восьмы раз перамяраць.

З паэтам можна было б паспрачацца: ён як бы выказвае неадабрэнне «дзядам», што ўнуку цяпер даводзіцца папраўляць іх работу, але спрачацца не будзем. Навошта хітраваць? На месца старога, якім бы яно ні было, заўсёды прыходзіць новае.

Надуманыя праблемы, неіснуючыя перажыванні — іх часта сустрэнеш на старонках кнігі. Вось лірычны герой выходзіць на вуліцу месячнай ноччу. Думаеце, паблукаць? Падумаць? Ні ў якім разе! «Трэба сабаку суцішыць— чаго заліваецца? Трэба у садзе ўсё-ткі зайцоў дачакацца і, прывітаўшыся шчыра і ветла, іх папярэдзіць: пад яблыняй—петлі». Годзе! Нічога такога не было і не будзе. А тут яшчэ і апафеоз: ідзіце, вартаўнікі, дадому, таму што «месячнай ноччу твой дом каравуляць паэты». Яўнае перабольшванне ролі паэта ў жыцці... І ў другім вершы аловак павінен быць шчаслівы тым, што трапіў у рукі паэта, таму што мог бы аказацца зброяй кладаўшчыка («Аловак»). Навошта ж так рысавацца на фоне сціплай прафесіі? Кладаўшчыкі — яны таксама людзі вельмі патрэбныя і ў прынцыпе могуць са сваёй прафесіі таксама здабываць паэзію.

Не, зусім не выпадкова вырываюцца ў М. Дуксы радкі: «Бывае, што жыццё — кавалак прозы, для выгляду памочаны у мёд». Паэт і імкнецца накарміць чытача гэтым «мёдам», саскрэбленым з прозы жыцця. «Мо сталі тыдні шэрымі, як глеба»,—піша ён. А што ў свеце лепшае за шэрую глебу, якая нараджае ўсе фарбы? Менавіта ў шэрых, як глеба, тыднях, у штодзённай працы, у выкананні сваіх абавязкаў, ва ўсім, з чаго складаецца чалавечае жыццё,— уся паэзія жыцця. М. Дукса страціў, відаць, да яе густ, і паэзія жыцця знікла з яго вершаў.

Пра каханне М. Дукса піша многа і з вялікім задавальненнем, але параўнанне любоўнай лірыкі «Спаткання» і «Крокаў» — не ў карысць апошняй кнігі. Дадзім чытачу магчымасць самому пераканацца ў гэтым. У «Спатканні» ёсць верш. Вось ён:

Тырчаў паркан пад вокнамі высока,
Як рыцар, я куляўся у дзяды.
І як ні краўся я з другога боку —
Брахаў сабака на мяне руды.
Трывожыў дзеда: а калі украсці
Унучку хочуць з-пад яго вачэй?..
Курыў ён,
А «украдзеная» Насця
Сама шаптала: «Пабяжым хутчэй!..»
. . . . . . . . . . . . .
І я, і дзед унучку праваронілі —
Няўцямна, але замужам яна.
Растуць дзяды пад плотам у
застрэшша,
А куст півоні яшчэ летась ссох.
Сабака на мяне цяпер не брэша —
Да рук бяжыць і лашчыцца ля ног.

Як добра, сумна, светла—ці не праўда? А вось — з «Крокаў»:

...Ад дзяўчыны — вусны,
што мілуюць,
Хоць гавораць
вельмі рэдка «можна»...
Дотык лебядзіных крыл —
цалуюць
Соты раз як першы —
асцярожна...
Ад жанчыны —
ветлівыя рукі,
Што раптоўна крыўду забываюць
І адчайна
хмелем гнуткім
Да апошняй зоркі спавіваюць.

Справа тут не ў ханжастве — паэзія і не гэткае «выдавала»! Справа нават не ў тым, што ў першым выпадку — нявыказанае слова «каханне» прысутнічае ў кожным радку, а ў другім на яго месцы тое, што называюць «сувязю». Справа ў тым, што другі верш — поўны набор штампаў: лебядзіных крылаў, хмелю, абдымкаў, расстанняў на досвітку і г. д. Думаю, што і ў гэтым выпадку чытач аддасць перавагу «Спатканню».

...Дык што ж — крок назад?

Не, ні ў жыцці, ні ў паэзіі крокаў назад не бывае. Тут іншае: адрыў ад рэальнасці, ад рэалістычнага мыслення, плаванне ў нейкай беспаветранай прасторы. Рэальнае жыццё — вось тое, за што трымаецца паэзія, падарожнічаючы па бурным акіяне пачуццяў. Толькі «счапленне» з «глебай» рэальнага жыцця дае паэзіі магчымасць рабіць сапраўдныя крокі ўперад, да разумення ісціны быцця.

За аднаго бітага, кажуць, двух нябітых даюць, і пры ўмове глыбокай, сапраўднай павагі да рэальнасці паражэнне М. Дуксы можа стацца яго вялікай перамогай.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**




**Алесь СТАВЕР. «ЖУРАЎЛІ ЛЯЦЯЦЬ...» Вершы і песні. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972.**

# НЯСПРАЎДЖАНЫЯ АБЯЦАННІ

Новая, трэцяя па ліку, кніга паэзіі Алеся Ставера. Падзагаловак «Вершы і песні» яшчэ раз напамінае, што мы маем справу не проста з паэтам, а з паэтам-песеннікам. У песні ж свая спецыфіка. Верш, які кладзецца на музыку, мае ярчэй выражаныя мілагучнасць, настраёвасць, даходлівасць.

Слабасці, відавочныя ў звычайным вершы, часта пры пераходзе яго ў песню нібы затушоўваюцца, знікаюць.

Для прыкладу спашлюся на верш «Жураўлі ляцяць...», якім адкрываецца зборнік А. Ставера:

Каб любіць Беларусь нашую мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць...

Нават з першага позірку бачна, што думка, выказаная тут, не бясспрэчная. Чаму, каб любіць радзіму, трэба абавязкова ехаць у іншыя краі? Можна пагадзіцца, што на чужыне вельмі востра абуджаецца туга па роднай зямлі, але гэта зусім не азначае, што людзі, якія не выязджалі за межы сваіх аселіц, не любяць іх. Хутчэй за ўсё яны жывуць у той ці іншай мясціне таму, што любяць яе. Так і з жураўлямі.

Але паглядзіце, якая метамарфоза адбываецца з вершам, калі ён пераўвасабляецца ў песню. Мы не заўважаем ні яго павярхоўнасці, ні яго наіўнасці, мы проста душою ўспрымаем песню. Не зусім удалыя словы шмат якіх песень не перашкаджаюць ім быць папулярнымі і нават любімымі. Відавочна, паэты-песеннікі выпрацавалі нейкі канон, на які мусіць арыентавацца Алесь Ставер. І скажам адразу—не без поспеху.

Што датычыць «проста вершаў» кнігі «Жураўлі ляцяць...», дык і ў многіх з іх («Людзей страчаю толькі па даверу...», «Мары», «Сцяг Леніна», «Маё слова», «Наш голас») паэт сведчыць сваю адданасць і любоў да бацькаўшчыны, гаворыць аб сваім служэнні народу, Радзіме. Шкада толькі, што ўдача тут спадарожнічае яму не часта. Паэту, як вядома, мала апавясціць свае погляды і прынцыпы—трэба яшчэ давесці іх сваёй творчасцю, раскрыць як унутраныя якасці асобы. Таму так важна тое, як гаворыць ён пра жыццё, пра час, пра сябе.

Барацьбе за шчасце ўсіх народаў
Прысвячу жыццё і сэрца жар,
Каб усюды рэяў сцяг свабоды,
Сцяг, сатканы з нашых дум і мар,—

чытаем мы ў вершы «Маё слова».

Да апошняга дня не прыстану,—
Услаўляць буду веліч жыцця.
А куды мае вочы не глянуць,
Туды мары мае даляцяць,—

пафасна гаворыць паэт у другім—«Мары».

Мы за праўду, за жыццё на свеце,
І не страшыць нас агонь вайны.
Мы не любім кідаць слоў на вецер—
Помняць хай заморскія паны,—

працягвае ён свой публіцыстычны маналог у вершы «Наш голас».

Заява, як бачым, адказная і шчырая. Але ў ёй відавочна пераважае рытарычны пафас. Паэтычнаму слову бракуе канкрэтнасці, непаўторнасці вынашаных і выверaных усім душэўным чалавечым вопытам адзнак часу і сябе. Тое, што ў радках скрозь і ўсюды гучаць «я» і «мы», не выратоўвае іх ад безаблічнасці.

У зборніку «Жураўлі ляцяць...» нямала вершаў, навеяных сустрэчамі з рознымі людзьмі. Гэта — «Радня», «Дарога братэрства і міру», «Ты ўзрасла ля снежнага Эльбруса...». Здавалася б, розныя людзі, розныя абставіны, розныя настроі нададуць адметнасць слову і вобразу. Але і тут паэту не ўдаецца пазбыцца безаблічнасці.

Ты сустрэнеш шчырасць і гасціннасць,
Будзеш жыць сярод сяброў штодня,
Бо працоўныя усёй краіны—
Наша неабдымная радня.

Гэта—з верша «Радня». Побач:

Працоўныя з радасцю шчырай
Усюды нас прымуць і стрэцяць.
...Дарогі братэрства і міру
Пралягуць па цэлай планеце.

Усё гэта напісана агульна, без адчування жывога чалавека, рэальнай сувязі з ім. Жывых людзей няма. Ёсць газетная інфармацыя. Бо сэрца аўтара не ўсхвалявалася, не забілася часцей. Затое там, дзе жыве паэтава душа, жывуць і іншыя, няхай нават гутарка і не ідзе прыватна пра іх. Вось, напрыклад, верш «Ішлі з табой—мне помніцца—з кіно».

Лёс разлучыў нас назаўжды з табой...
Ды калі смутак мае вочы засціць,
Я ўспамінаю добры вечар той,
Як водгук недасягнутага шчасця.

Адразу прываблівае і натуральнасць пачуцця, і даверлівасць, і неардынарнасць.

Альбо якая шчырая, якая натуральная інтанацыя ў вершы «Калі хаваць мяне павезяцё»:

Калі хаваць мяне павезяцё,
Прашу: іграйце паланез Агінскага.
Хавайце там, дзе пачынаў жыццё...

Калі гаворка ідзе пра вельмі важнае асабіста, пра запаветныя думкі,—знаходзяцца і словы, і вобразы. І шкада, што, беручыся за высокія і грамадска-значныя тэмы, А. Ставер дазваляе сябе не шукаць новае, свежае ў іх адлюстраванні, а паўтарае агульнавядомае, заштампаванае. Паяднаць агульнае і асабістае яму, на жаль, удаецца вельмі рэдка.

Калі «ўсеабдымныя» абагульненні Алеся Ставера пазбаўлены жывога дыхання і грашаць рытарычнасцю, то не выратоўвае яго і «паэзія факта». Ці то апісвае А. Ставер сустрэчу з дзедам Марозам, які, стоячы ля навагодняй ёлкі, жадае, каб край быў багацейшы, каб студэнты займаліся на выдатна, каб каханыя жаніліся; ці то апавядае пра хлопца і дзяўчыну—ён служыць у войску танкістам, а яна ў калгасе «кіруе новым трактарам сама»; ці то радуецца прыезду настаўніцы: «у сяло прыехала настаўніца—і адразу стала весялей»; ці то непакоіцца за каханне Мішы і Лены; ці то бядуе, што дзяўчына праходзіць міма, не заўважаючы яго «першай асобы»—ён нідзе не ўражвае адметнасцю пачуцця, арыгінальнасцю думкі, не ўздымаецца да чаго-небудзь значнага. Прыватны факт не робіцца фактам паэзіі.

Алесь Ставер нямала піша і пра каханне. Але тут ён часта аднастайны і неарыгінальны. Праўда, у вершы «З гадоў юнацкіх» аўтар наракае, што свой ідэал ён яшчэ не знайшоў, бо ўсё

...страчаю нейкіх недарэчных,
То ганарлівых, то зусім пустых,
То прыгажуняў чорствых, бессардэчных,—
Ох, не магу я закахацца ў іх.

Але калі гэты ідэал і знаходзіцца, дык чамусьці верш усё роўна не робіцца лепшым і ўнутраны свет паэта не надта багацее:

Рукі моц бязмерную адчулі,
Што б ні ўзяў цяжкое—падніму.
І здаецца, я б зямную кулю,
Як ядро спартыўнае, шпурнуў.
(«Шмат дзяўчат прывабных ёсць на свеце...»)

Бляклымі выглядаюць у зборніку і такія вершы пра каханне, як «Ты ўзрасла ля снежнага Эльбруса...», «Цябе яшчэ нідзе я не страчаў...»

Алесь Ставер даволі інертны ў выяўленні сваіх адчуванняў. А закон паэзіі патрабуе: калі ты ўсхваляваны—гавары ўсхвалявана, абураны—будзь абураны, каб мы адчулі сапраўднае і непадробнае пачуццё. Як толькі такое здараецца—адразу сэрца кранае жывое, ненадуманае перажыванне:

Парой баюся: завяло далёка,—
Здаецца, так не вытрываю больш...
Ды суцяшае запавет прарокаў:
Там, дзе каханне, там заўсёды—боль.

Як натуральны працяг душэўнага неспакою, нястомнай мары гучыць і верш «Далёка вясновыя далі...».

Ды ўсё-ткі мы любім і верым
У спёку і люты мароз,
Што ёсць дзесьці сонечны бераг
І ёсць дзесьці радасць без слёз.

Больш удаюцца А. Ставеру гумарыстычна-бытавыя вершы, дзе ён, абапіраючыся на фальклор, не вар'іруе знаёмыя матывы, а стварае нешта сваё, новае. Шкада, што ў зборніку такіх вершаў няшмат—«Каб дома не журыліся», «У хаце каваля», «Вяселле».

Раздзел «Горнае рэха»—вынік паездкі паэта на Каўказ. Алесь Ставер дзівіцца небу і горам, захапляецца бурнаю Курою, пад уздзеяннем убачанага і пачутага сам нібы пераўвасабляецца ў жыхара гор:

Парывам благародным абуян,
Я стаўлю нуль на дробязі людскія.
Ў маёй душы гучыць Хачатуран,
Ў маіх пачуццях—горная стыхія.
(«Кіравакан»).

Найбольш змястоўны ў гэтым раздзеле верш «На пушкінскім перавале». Аднак аўтар не дадумаў яго да канца. Схіляючы галаву перад памяццю вялікіх паэтаў Пушкіна і Грыбаедава, ён гаворыць:

К чаму праклёны... Годы адышлі—
Імёны цёзак у праменнях славы.
А нас, святых і грэшных, на зямлі
Трывожаць сёння ўжо другія справы.

Справы, за якія змагаліся і Пушкін і Грыбаедаў, для нас—не «другія справы». Калі б гэта было так, не гучала б сёння, не была б нам такою блізкаю іх паэзія.

Ёсць у «каўказскім» раздзеле зборніка верш «Мeграб». У ім паэт заяўляе:

І я працую гэтак, як Мeграб,—
І я фантан на свой манер узводжу.
Фантан з прыгожых беларускіх слоў
Паэзіі сардэчнай, гутарковай,
Каб для людзей у гомане вякоў
Стаў мой фантан патрэбнасцю жыццёвай.

Ну, што тут скажаш? Ці не настаў час перайсці да здзяйснення гучных дэкларацый?..

**Алесь РАЗАНАЎ.**



# МАЛЕНЬКАЯ ПРЫНЦЭСА АЛІМПІЯДЫ

Восень 1965 года. Алена Валчэцкая, якая тады ўжо стала трэнерам, прывяла ў «школу Кныша» маленькую чацвёртакласніцу Олю Корбут — дзяўчынку задзірыстую, з «чарцяняткамі» ў вачах.

— Пасядзі, Оля, на лавачцы,— сказала алімпійская чэмпіёнка.— Паглядзі, як дзяўчаты займаюцца гімнастыкай. Калі спадабаецца — заўтра прыходзь на трэніроўку...

Назаўтра Оля зноў з'явілася ў гімнастычнай зале...

А праз два гады пасля трэніроўкі дадому да Олі зайшоў яе спартыўны настаўнік.

— Знаёмся, мама, гэта мой трэнер,— сказала Оля.

Стройны мужчына ў спартыўным касцюме адрэкамендаваўся:

— Ранальд Іванавіч Кныш...

Оліна маці паціснула працягнутую руку і, сумеўшыся, таксама назвала сябе:

— Валянціна Іванаўна... А вы праходзьце, садзіцеся...

— Дзякуй,— і Ранальд Іванавіч адразу загаварыў аб справе.— Оля наведвае секцыю гімнастыкі. Вы не супраць, калі яна і далей будзе трэніравацца ў нас?..

— Не, што вы. Калі ёсць жаданне, няхай трэніруецца. Я ўсё думала, што яна пасля ўрокаў на гэту, як яе, фізкультуру бегае, а яна, аказваецца, у секцыі...

— Оля — дзяўчынка здольная, смелая. Я думаю, што з яе будзе гімнастка.

— Глядзіце самі. Вы — настаўнік, вам больш відаць...

Ішоў час. Адолеўшы азы гімнастыкі, Оля перайшла да элементаў вышэйшай катэгорыі складанасці. Трэнер і яго выхаванка развучвалі элементы і камбінацыі, якія не рызыкнула ўключаць у сваю праграму ні адна гімнастка свету. Цуд станавіўся явай: сальта назад на бервяне, пералёт «ластаўкай» з верхняй жэрдкі на ніжнюю і яшчэ адно сальта пры саскоку на рознавысокіх брусах. Нагрузкі раслі. Сёе-тое з элементаў «не глядзелася»; не было той прыгажосці, якой хацелася дасягнуць. Паўтор. Яшчэ паўтор. Сто першы раз — паўтор! Олі гэта не падабалася, і яна пачала капрызіць, уцякала з залы з плачам, у слязах... Ранальд Іванавіч займаўся з іншымі дзяўчынкамі, цярпліва пераносіў капрызы ўзросту і чакаў: «Прыйдзе ці не прыйдзе?..» Оля вярталася і... усё пачыналася спачатку.

На ўсесаюзных спаборніцтвах Оля Корбут паявілася ў шэсцьдзесят дзевятым і адразу звярнула на сябе ўвагу. Масцітыя трэнеры пыталіся ў Ранальда Іванавіча: «Дзе ты знайшоў такую зорку?» У тым жа годзе на міжнародным турніры «Алімпійскія надзеі» Оля выступіла цудоўна, прадэманстраваўшы ўнікальныя элементы «ўльтра-сі», а яшчэ праз два гады стала чэмпіёнкай спартакіяды народаў СССР і аказалася «на прыцэле» ў трэнераў зборнай.

...Оля Корбут пудрыць далоні магнезіяй, дзьме на іх, размінае пальцы, туга перахопленыя скуранымі накладкамі, каб не нажыць мазалёў, глядзіць на Ранальда Іванавіча.

— Пачнём, бадай, з брусоў,— як заўсёды, спакойна гаворыць Ранальд Іванавіч.

Зала ўжо напалову апусцела — дзяўчынкі з малодшай групы, закончыўшы трэніроўку, разыходзіліся.

Вузенькая прастора паміж двума драўлянымі круглымі брусамі, здаецца, пазбаўляе спартсмена ўсякай фантазіі. Але гэта толькі здаецца. Для Олі і яе трэнера гэтая абмежаваная прастора — незвычайная трыбуна, дзе можна прадэманстраваць цэлы феерверк самых складаных махаў, сальта і піруэтаў. Оля спружыніста разбеглася, учэпіста ўхапілася рукамі за ніжнюю жэрдку, адцягнутыя наскі імкліва праляцелі над памостам, і вось ужо яе стройная фігурка зрабіла віхурны абарот. Жэрдкі ціха рыпнулі, а Оля ў імгненне пералёту раптам расслабіла пальцы, адпусціўшы верхнюю жэрдку, тонка ўлавіла вібрацыю і ўжо без ніякай апоры і падтрымкі маланкай «прачарціла» ў паветры мудрагелістую траекторыю...

Гэта быў цудоўны палёт, дзёрзка задуманы і элегантна выкананы. Я стаяў як зачараваны і ўпотай спадзяваўся, што Ранальд Іванавіч, убачыўшы такое, павінен, ну хаця б скупа, усміхнуцца. Але да мяне даляцелі яго словы, кароткія, як загад:

— Яшчэ разок... Больш рэзкі мах!..

Маленькая фігурка зноў і зноў прапелерам «увінчвалася» ў паветра. Здавалася, яшчэ міліметр — і яе рукі не дацягнуцца да жэрдак. Але Оля «ўвахodзіла» ў штопар і выходзіла з яго і пры гэтым яшчэ ўсміхалася, быццам пераконвала сваіх будучых суддзяў і гледачоў, што ёй і на самой справе лёгка даецца гэты палёт.

— Ну, а цяпер пяройдзем да вольных,— сказаў тым жа сухаватым голасам Ранальд Іванавіч.— Твае вольныя пакуль што не глядзяцца...

Оля пругкімі крокамі мерала дыван, нахілялася, прысядала... Пастаяла, быццам збіраючыся з думкамі і, разагнаўшыся, узляцела над дываном.

— Болей пластыкі, Оля,— карэкціраваў камбінацыю Ранальд Іванавіч.— Ты бачыла калі-небудзь чмяля?

— А што?— здзіўлена павяла плячом Оля.

— Паспрабуй паказаць яго палёт...

...Пад Новы год у доме Корбутаў прыбіралі ёлку, і пакой быў поўны ляснрй свежасці і шчымлівай таямнічасці. Оля і яе старэйшая сястра Люда чаплялі за калючыя галінкі рознакаляровыя цацкі. Нечакана Оля выпусціла з рук блакітны шар...

— Знаёмы почырк,— з'едліва сказала Люда.

— Хопіць табе,— усміхнулася Оля.— Будзем лічыць, што шарыкі таксама разбіваюцца на шчасце...

У дружнай сям'і Корбутаў ніхто нават не мог загадаць у той навагодні вечар, што алімпійскі год увойдзе ў іх дом такім шчодрым і шчаслівым, што маленькая Оля заваюе бронзавы медаль на чэмпіянаце краіны, атрымае ў школе атэстат сталасці, прывязе з Масквы Кубак СССР, стане студэнткай Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы і паедзе на Алімпіяду ў Мюнхен, каб вярнуцца дадому ўладальніцай трох залатых медалёў. За выдатныя спартыўныя дасягненні ёй прысвояць званне заслужанага майстра спорту, яе імя занясуць у Кнігу пашаны ЦК ЛКСМ Беларусі, і, нарэшце, яна атрымае ордэн «Знак Пашаны»...

Улетку 1972 года турнір на Кубак Савецкага Саюза сабраў увесь цвет жаночай спартыўнай гімнастыкі. Як і меркавалася, спрэчку за ганаровы трафей павялі чэмпіёнкі Еўропы Людміла Турышчава і Тамара Лазаковіч. Пасля двухдзённай барацьбы вызначыліся шаснаццаць гімнастак, якім трэба было вырашыць лёс Кубка.

Турышчава ўпэўнена і бездакорна выканала практыкаванні на брусах, атрымала высокую ацэнку за скачок, і здавалася — шлях ёй да п'едэстала адкрыты! Але наперадзе было бервяно — вузенькая 10-сантыметровая палоска...

У Зінаіды Варонінай ацэнка за камбінацыю на бервяне малая — 8,9 бала. Тамара Лазаковіч «прайшла» бервяно спакойна. Яе ацэнка — 9,5. І вось на снарадзе Турышчава. Пава-



**Вольга Корбут на трэніроўцы ў заслужанага трэнера СССР Рамуальда Кныша.**

рот, яшчэ паварот, «кола» і... Людміла на падлозе. Была ў лідэра перавага і—растала, быццам ранішні туман...

Оля ў гэты момант спакойна размінался: яна нават не заўважыла, як сарвалася з бервяна Турышчава.

І тут выклікаюць яе.

Рытмічна, раскавана ходзіць Оля на вузенькім паліраваным брусе і заканчвае складаную камбінацыю сваім выдатным «сальта назад» (напэўна, гэтае сальта ўвойдзе ў падручнікі па гімнастыцы пад назвай «сальта Корбут»—як «вяртушка Бурды» і «паварот Дзіамідава»). На табло ўспыхваюць лічбы—9,7! Радасная дзяўчынка падбегла да Ранальда Іванавіча, і той упершыню задаволена ўсміхнуўся.

Оля Корбут стала лідэрам спаборніцтваў.

Люда Турышчава не здавалася. Яна спадзявалася навярстаць страчаныя долі бала ў вольных практыкаваннях, дзе заўсёды выглядае грацыёзна і ўрачыста. «Дзяўчыну маёй мары» Люда бліскуча адтанцоўвае на дыване. Ацэнка—9,8. Задача Олі ўскладняецца: ёй трэба набраць не менш як 9,5 бала...



— Рызыкнём?—Оля паглядзела на свайго настаўніка.

Ранальд Іванавіч кіўнуў галавой.

Няхай жыве рызыка!

— Твой выхад, Оля.

Маленькая, з грыўкай і банцікамі, Оля падышла да дывана. Пачакала, калі першы акорд упадзе ў цішыню залы. Здалося, быццам музыка на нейкае імгненне апярэдзіла гімнастку, але гэта толькі здалося. Оля была дакладная ў рухах, ды і «Палёт чмяля» Рымскага-Корсакава на дзіва ўдала спалучаўся з імклівым каскадам унікальных, амаль з мужчынскай гімнастыкі, элементаў, эфектных, пругкіх крокаў... Яе абноўленыя вольныя практыкаванні падкуплялі тэмпераментам, харэаграфічнай пластычнасцю, хлапечай гарэзлівасцю і дзявочай непасрэднасцю: Оля і сапраўды была падобна на чмяля, які лятае ў гімнастычнай зале.

І раптам усё спынілася. Гімнастка, быццам балерына, упілася наскамі ў дыван, а зала выбухнула ад апладысментаў. Оля зачаравала не толькі гледачоў, але і строгіх арбітраў—9,6 бала!

Гэта была перамога. Трайная: самой Олі Корбут, яе таленавітага настаўніка, заслужанага трэнера СССР Ранальда Іванавіча Кныша і, нарэшце, перамога гродзенскай гімнастычнай школы.

Цяжкую пасярэбраную вазу Оля Корбут павезла ў свой родны горад...

Майстэрства і талент новай уладальніцы Кубка СССР знаўцы савецкай гімнастыкі ацанілі па-рознаму, але аднолькава высока.

Ларыса Латыніна, старшы трэнер жаночай зборнай каманды краіны:

— За плячыма Олі Корбут трохгадовы стаж выступленняў на спаборніцтвах. Для яе характэрна высокая





тэхніка і бясстрашша. Оля—адзіная выканаўца шэрагу новых элементаў, якія яна з поспехам выконвае на брусах і бервяне. Кубак СССР дае юнай гімнастцы права паехаць на Алімпійскія гульні ў Мюнхен.

Уладзімір Смалеўскі, старшы трэнер мужчынскай зборнай краіны:

— Вольга Корбут—вельмі сучасная гімнастка. Я даўно яе ведаю і сачу за ёю. Раней Олю падводзілі вольныя практыкаванні. Цяпер ад гэтага недахопу яна пазбавілася. На Кубку краіны маладая спартсменка зарэкамендавала сябе сапраўдным байцом.

Праз некалькі дзён пасля таго, як Оля вярнулася з Масквы з перамогай, я сустрэўся з ёй і ўзяў інтэрв'ю.

— Сем гадоў назад табе, Оля, нялёгка давалася нават такое простае практыкаванне, як «шпагат», а цяпер ты прызнаная гімнастка. Каму ты абавязана гэтым трыумфам?

— Перш за ўсё майму любімаму спартыўнаму настаўніку Ранальду Іванавічу Кнышу. Той, каму давялося пабываць у нашай гімнастычнай зале, бачыць мноства розных прыстасаванняў. Ранальд Іванавіч усё гэта прыдумаў для таго, каб нам лягчэй было асвойваць складаныя элементы, шліфаваць камбінацыі. Усе без выключэння нумары нараджаліся доўга і цяжка; не абыходзілася нават без сінякоў і слёз, але Ранальд Іванавіч пастаянна гаварыў: «Твая кампазіцыя павінна складацца не проста з набору трукаў, як у цырку. Кампазіцыя павінна быць лагічнай і закончанай, эстэтычна выразнай. Для таго каб стаць гімнасткай высокага класа—аднаго таленту мала. Гімнастыка—заўсёды пошук, вечнае адчуванне рызыкі, навізны, артыстызму. Кожны элемент, кожную звязку і паварот трэба шліфаваць тысячу разоў, і толькі тады прыйдзе поспех».

— Ці разлічвала ты на перамогу?

— Пра перамогу я марыла даўно, не раз была блізка да верхняй прыступкі п'едэстала. І вось гэты дзень надышоў...

— Оля, ты сказала аднойчы, што больш за ўсё на свеце любіш гімнастыку. Гэта так?

— Так, гімнастыка—мая любоў. Я люблю ўласцівую гэтаму прыгожаму віду спорту вастрыню суперніцтва, люблю рызыку. Гімнастыка без рызыкі—сумная...

— Якая з чатырох дысцыплін жаночай гімнастыкі для цябе самая складаная?

— Дзяўчаты лічаць самым цяжкім снарадам бервяно, а для мяне самае складанае—вольныя...

— А самы любімы снарад?

— Бадай, брусы. Чаму? На брусах можна без канца фантазіраваць...

— Нядаўна ты атрымала атэстат сталасці. А далей што?

— Мая мара—вучыцца ў інстытуце, а потым—стаць трэнерам.

— Чым ты займаешся ў вольны час?

— Вольны час?—здзівілася Оля.— У мяне няма яго. Маці гаворыць, што я наогул рэдкі госць у доме: трэніроўкі, зборы, паездкі на спаборніцтвы. Люблю музыку, люблю пасядзець з кнігай...

— Тваё ўяўленне аб шчасці?

— Я буду шчаслівая, калі заваюю залаты алімпійскі медаль і гэта ўбачыць па тэлевізары мая мама...

Канец мінулагодняга жніўня. Сталіца XX Алімпіяды—Мюнхен. Асляпляльны гімнастычны спектакль далі ў «Шпортхале» савецкія гімнасткі Людміла Турышчава, Тамара Лазаковіч, Любоў Бурда, Эльвіра Саадзі, Вольга Корбут і Антаніна Кошаль. Шэсць чароўных грацый сталі чэмпіёнкамі Алімпіяды ў камандным заліку! А наперадзе была барацьба за тытул абсалютнай чэмпіёнкі па гімнастыцы, трэба было разыграць камплекты алімпійскіх медаляў у асобных відах мнагабор'я.

Наперадзе былі слёзы, горыч, і радасць...

Цудоўна закончыўшы каскад звышскладаных элементаў на брусах, Оля раптам «павісла» на ніжняй жэрдцы...

Ранальд Іванавіч, які сядзеў на трыбуне, схапіўся за галаву.

— Ну, цяпер—усё...

— Бедная дзяўчынка,— пляснула рукамі Валянціна Іванаўна ля тэлевізара ў далёкім Гродне.— Ну, чым жа дапамагчы табе, дачушка?..

Разгубленая, Оля накіравалася да бервяна. Няўжо рызыкне і выканае «смяротны нумар» — фантастычнае сальта назад? Оля рызыкнула. І строгія суддзі ва ўзнагароду выставілі 9,8!

Палац «Шпортхале» выбухнуў бурай авацый, а Оля, таропка збегшы з памоста, прысела на лавачку і, не саромеючыся, заплакала, прыпаўшы шчакой да пляча сваёй суперніцы з каманды ГДР Эрыкі Цухальд...

Потым, калі закончыліся выступленні на бервяне, выцерла слёзы і, заняўшы сваё месца ў гімнастычнай шарэнзе, накіравалася ў раздзявалку. У гэтыя хвіліны яна спрабавала нават усміхнуцца, хоць на душы было горка.

Сяброўкі як маглі заспакойвалі Олю, але ёй было маркотна ва ўтульным доме алімпійскай вёскі. Захацелася апынуцца ў родным горадзе, прыціснуцца шчакой да цёплых матчыных далоняў...

У той вечар у яе выходзіла ўсё задуманае раней—элемент за элементам, камбінацыя за камбінацыяй; яна адчула, нарэшце, рытм, пластыку і, бадай, упершыню на алімпійскім памосце спадабалася сабе... Дадаваў натхнення залаты медаль, заваяваны ў гэты вечар на бервяне, і вельмі хацелася паднесці яшчэ адзін падарунак савецкай камандзе, Ранальду Іванавічу, мільёнам прыхільнікаў, маці... Гэта ж вельмі здорава—даваць падарункі людзям, якія вераць у цябе...

Чуйна ставячы наскі, падышла да краю дывана і, адчуўшы сябе ў знаёмай стыхіі, па-заліхвацку закружыла віхурныя сальта і піруэты. Яе вольныя былі чароўныя, яна чула, што ў такт яе танцу пляскаюць тысячы далоняў, і загаралася яшчэ больш...

Прабіла, нарэшце, і яе «зорная гадзіна». І ўвесь цяжар алімпійскага золата Оля адчула ўжо, стоячы на самай высокай прыступцы п'едэстала, калі пад скляпеннямі «Шпортхале» велічна гучаў гімн Радзімы.

Ранішнія газеты, адна перад другой, прызнаваліся ў любві да самай маленькай і самай яркай зоркі савецкага гімнастычнага сузор'я. «Улюбёнкай публікі стала грацыёзная Вольга Корбут з беларускага горада Гродна. Калі 17-гадовая школьніца ў часе вольных практыкаванняў бліснула брыльянтавым гімнастычным феерверкам, бура захаплення разнеслася ў зале. Пасля выступлення Вольгі на брусах бура ператварылася ва ўраган. Дзёрзкая і гарэзлівая, яна з такой шалёнай смеласцю лятала ад перакладзіны да перакладзіны, што ў многіх гледачоў перахоплівала дыханне»,—не скупілася на эмоцыі газета «Абендцайтунг». Газета «ТЦ» таксама не пашкадавала эпітэтаў: «Яна светлавалосая, у яе фігурка 12-гадовага хлопчыка, і яна агнявая, дзёрзкая—у любой сітуацыі. Яе неверагодныя комплексы скачкоў ствараюць уражанне, што гэта—імправізацыя выдатнага таленту»...

Пасля ўрачыстага закрыцця XX гульняў Оля вярталася дадому, а пісьмы, тэлеграмы і паштоўкі, абганяючы яе, з усіх канцоў планеты ляцелі ў Гродна: «Дарагая міс Корбут! Прымі віншаванне ад прыхільніка твайго таленту. Элспас Шэрман. Штат Каліфорнія. ЗША». «Ты—малайчына, Оля! Мы ідзём у акіян лавіць промыславую рыбу і вязём з сабой любоў да цябе. Па даручэнні экіпажа Фёдар Фарушкін. Камсамольск-на-Амуры». «Я вялікі прыхільнік Вашага таленту, Вольга Корбут. Віншую з перамогай на Алімпіядзе. З прывітаннем Фолькер Ромер. ГДР».

І, нарэшце,—Гродна. Сустрэць сваю зямлячку, гераіню Алімпіяды, выйшлі на перон тысячы гродзенцаў. Грымнула медзь аркестра. Ад прыступак вагона разам з бярэмем кветак яе на руках панеслі да машыны.

— Дзякую, дзякую!..—расчулена паўтарала Оля. Я проста не магла, не мела права выступіць дрэнна. Дзякуй вялікае ўсім, усім!..

...Цяпер у Гродна зіма. Кружацца ў танцы рэдкія сняжынкі—ідзе семнаццаты ў Оліным жыцці снег. Оля спяшаецца на трэніроўкі. Ад дома да стадыёна «Чырвоны сцяг» зусім блізка, пад нагамі пахруствае пахкі сняжок. З жоўтых квадратаў вокнаў гімнастычнай залы палоскі электрычных агнёў падаюць на хвалісты сумёт, адбіваючыся мяккім фіялетавым святлом...

...А спартыўны свет чакае, якую яшчэ сенсацыю падорыць гімнастыцы маленькая прынцэса мюнхенскай Алімпіяды.

**Іосіф КАЛЮТА.**



# нашы аўтары

**ЛУЖАНІН Максім** нарадзіўся ў 1909 годзе на Старобіншчыне Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум, вучыўся ў БДУ. У час Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях пад Масквой і Сталінградам. Пасля вайны працаваў у рэдакцыях газеты «Звязда» і часопіса «Вожык», у Акадэміі навук БССР, на кінастудыі «Беларусьфільм». Першы зборнік вершаў «Крокі» выдаў у 1928 годзе. Аўтар кніг паэзіі «Новая ростань», «Аднагалосна», «Галасуе вясна за вясну», «Першамайская вуліца», «Шырокае поле вайны», «Поступ», «Святло Радзімы», «Моваю сэрца», кніг прозы «Вачыма часу», «Колас расказвае пра сябе», «Дванаццаць вячорных вогнішчаў» і інш.
Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе на Ушаччыне. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Аўтар зборнікаў «Сакавік», «Абутая елачка», «Палачанка», «Купалінка», «Калі помніць пра сонца», «Людзі добрыя», «Хараство», «Пацеркі» і інш.

**БЫКАЎ Васіль** нарадзіўся ў 1924 годзе ва Ушацкім раёне Віцебскай вобласці. Скончыў сямігодку, вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У Вялікую Айчынную вайну быў на фронце, спачатку салдатам, затым афіцэрам-артылерыстам. Друкавацца пачаў у 1949 годзе. Выдаў кнігі «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Здрада», «Альпійская балада», «Адна ноч» і многія іншыя.
Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

**ТУЛУПАВА Нэла** нарадзілася ў 1938 годзе ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці. Скончыла Гомельскае медыцынскае вучылішча. Працавала медыцынскай сястрой, была на камсамольскай рабоце. Цяпер рэдактар шматтыражкі Беларускай сельгасакадэміі ў Горках. Аўтар зборніка вершаў «Станцыя надзей».

**ЗУЁНАК Васіль** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Барысаўскае педвучылішча і аддзяленне журналістыкі філфака БДУ імя Леніна. Выступае ў друку з вершамі з 1954 года. Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва», «Крутаяр», «Основа» (у перакладзе на рускую мову), зборнікаў вершаў для дзяцей «Вясёлы калаўрот», «Жылі-былі пад вадой» і інш.

**ДЗМІТРЫЕЎ Генадзь** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Першамайка на Віцебшчыне. Пасля сканчэння дзесяцігодкі працаваў на будоўлях Мінска. Цяпер настаўнічае на вёсцы і завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.




**Алена ЛОСЬ. Бабуля і ўнукі. (З серыі «Людзі на Прыпяці».)** Лінагравюра.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 1**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600. Мінск, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 15602. Здадзена ў набор 28/XI-72 г. Падпісана да друку 29/XII-72 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 17251 экз. Зак. 1339. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**